
«Беларуская песня»→3

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

PL ISSN 0546-1960

NR INDEKSU 366714


Францішак Бернікoвіч→8

http://niva.bialystok.pl

redakcja@niva.bialystok.pl

№ 07 (3170) Год LXII | Беласток, 12 лютага 2017 г. | Цана 2,50 зл. (у тым VAT 5%)



# Агонь у пэндзлі — ад дзядоў


«Бежанства»

**Ураджэнка Падляшша мастачка Аляксандра Чарняўская была чарговым госцем «Razemisji». Гераіня сустрэчы з'яўляецца аўтаркай знаходзячайся ў цэнтры Беластока ўстаноўкі «Kinooko», прысвечанай народжанаму ў Беластоку рэжысёру Дзігу Вертаву (Давіду-Дзянісу Каўфману), а таксама стваральніцай серыі карцін, якія адносяцца да складанай гісторыі нашага рэгіёна, таксама да бежанства. Аляксандра Чарняўская (1984 г.н.) жыве і працуе ў Варшаве. У цэнтры яе зацікаўленняў — жывапіс і рысунак. Стварае таксама фатаграфіі, аб'екты і інсталяцыі. Скончыла варшаўскую Акадэмію мастацтваў у 2008 годзе. З'яўляецца аўтаркай інсталяцыі, размешчанай у студзені 2011 года на рагу вуліц Легіяновай і Складоўскай. Тая інсталяцыя да сёння выклікае ў некаторых жыхароў Беластока (асабліва радных ПіС) супярэчнасці. Вертаў разглядаў камеру ў якасці інструмента для назірання за жыццём такім якім яно ёсць. Верыў у перавагу фотаапарата над чалавечым вокам, што на плёнцы захаваецца праўда. Асноўны элемент скульптуры-інсталяцыі Чарняўскай (праект распрацаваны ў супрацоўніцтве з галерэяй Арсенал) — шкляную шыбу памерам 2 на 3 метры з чорным растравым надрукам, кадрам з фільма «Чалавек з камерай» — вока ўпісанае ў аб'ектыў. Ужо ўстаноўка інсталяцыі суправаджалася пратэстамі.**

Арганізатары сустрэчы заахвочвалі: «Падчас сустрэчы мы будзем гаварыць пра патрэбу пошуку каранёў праз мастацтва, задумаемся аб сэнсе імкнення мастака, каб дасягнуць праўду пра сябе і свет. Ці такія спробы па сваёй сутнасці не асуджаныя на правал? Што дае творцу расказ пра продкаў? Ці мастацтва, якое спасылаецца на гісторыю, здольнае даць выразныя адказы, ці, дакладней, пакідае стваральніка і атрымальніка перад яшчэ большым лікам пытанняў? Мы задаем таксама пытанне, якую сёння ролю мае заангажаванае мастацтва. Чым для творцы з'яўляецца бунт і супраціў да рэальнасці? Ці мае ён які-небудзь уплыў на рэальнасць, ці, наадварот, голас мастака ў сацыяльных і палітычных пытаннях у прынцыпе з'яўляецца несур'ёзнай спробай удзельнічаць у дыскурсе, які хутчэй вядуць палітыкі і публіцысты? Параразмаўляем таксама аб стане мастацтва ў Беластоку і Падляшшы, пра нядаўнія дзіўныя рашэнні Гарадской рады скарачаць субсідыі на культуру і далучэнне Цэнтра Людвіка Заменгофа да культурнага цэнтра БОК. Пацікавімся таксама, чаму некаторым беластоцкім радным так моцна перашкаджае Дзіга Вертаў, адзін з самых вялікіх дакументалістаў у гісторыі кіно, заснавальнік «Сінема Vérité».

Сустрэча прайшла 3 лютага ў Кавярні Лялечнага тэатра з Беластоку па вуліцы Кастуся Каліноўскага.

Аляксандра Чарняўская нарадзілася ў Беластоку. У сваёй творчасці часта вяртаецца да месцаў, дзе яе карані — у асноўным у сяло Зачарляны, адзначаючы аўтатэрапеўтычную функцыю мастацтва. Чарняўская не хавае сваіх беларускіх каранёў. У яе працах чырвонай ніткай праходзіць тэматыка, якая адносіцца да вайны і пасляваенных беларуска-польскіх суседскіх адносін на Беласточчыне. Ужо цэлы цыкл карцін, якія былі дыпломнай працай Аляксандры Чарняўскай, расказваў пра цяжкія пасляваенныя гады, калі з ваколіц Зачарлян зніклі амаль усе — пражываючыя тут ад вякоў — беларусы. Тэмы, звязаныя з пачуццём ідэнтычнасці, вярталіся ў яе творчасці часта. У рамках выставы «Мастачкі» ў прэстыжнай галерэі «Белай» стварыла незвычайны мураль «Бежанства» (жывапіс памерамі каля 7 на 2 м), які спасылаецца на падзеі 1915 года. Натхненнем гэтай серыі была сямейная гісторыя брата яе дзеда Стэфана, які быў застрэлены выпадкова суседам:

— Стэфан стаў у маім доме міфічнай фігурай. Я мела патрэбу зрабіць штосьці аб ім, і гэта прыняло форму жывапіснага цыкла, — расказвала мастачка. А на адказ вядучага сустрэчу Гжэгажа Яношкі, што дае ёй «калупанне» ў сямейнай гісторыі, адказала: — Эмацыйна яны вельмі важныя для мяне. Гэта дзейнічае як аўтатэрапія. Гэтыя гісторыі былі для мяне жахлівымі, і я хацела іх сама перапрацаваць. І я не ведаю, як гэтыя людзі выглядалі, я ведаю гэтыя месцы, але праз шэсцьдзясят гадоў. Выкарыстоўваю трохі сямейных фатаграфій. Малюю схематычный рыскай. Натхненнем для мяне з'яўляецца мастацкая мова дзяцей. Мова майго мастацтва ўмоўная і ўмоўна трэба ўспрымаць гісторыі, пра якія там расказваю.

Тэмы, звязаныя з пошукам і пачуццём самаідэнтыфікацыі вяртаюцца ў яе творчасці неаднойчы. Так ёсць з сюжэтам, які спасылаецца на падзеі складанай гісторыі нашага рэгіёна, як час бежанства, да сёння балючы для беларускай меншасці Беласточчыны, гісторыі жывой у хатніх аповедах мастачкі.

— Увесь час я вяртаюся да гэтай тэмы і развіваю яе. Папрацавала я над сваёй ідэнтычнасцю і ведаю, што беларуская тоеснасць важная для мяне. Я мусіла напрацаваць, каб з гэтым справіцца ды знайсці ў гэтым каштоўнасць. Я не вельмі добра размаўляю па-беларуску, але гэтым чынам паказваю прыклад, як можна быць беларусам у розных варыянтах. Я не ведаю, калі паглядзела ў люстэрка і ўбачыла ў ім сваё беларускае вока. Мабыць, было гэта ў ліцэі.

— Найважнейшы чалавек у маім жыцці — дзедка. Я малюю тое, аб чым ён мне расказаў. Паказаў мне ўсё. Паказаў, як працуе рухавік аўтамабіля, навучыў, дзе шукаць баравікі. І дапамог мне зразумець, хто я. У выхадныя мы з сястрой сядалі ў валошкавы дзедкаў «Фіат» і ехалі з Беластока ў наша любімае месца — пляж на Чаплінянцы, прытоку ракі Нарвы. На шляху мiналі Зачарляны і дзядуля кожны раз казаў: «Гэта быў наш дом, а гэта поле аж да гарызонту было наша». Мы там ніколі не спыняліся. Перад вялікім дадому заходзілі на праваслаўныя могілкі, дзе спачываюць мае прапрадзеды — Агафія і Іосіф, прадзед Міхал і брат дзеда Стэфан (прабабулі Мані там яшчэ не было, яна памерла, калі мне было 15 гадоў). Дзедка навучыў мяне разбірацца ў грыбах. Мы наведвалі лясы вакол Зачарлян, якія дзедка памятаў з дзяцінства. Калі быў старэйшы і рэдка мы ездзілі ў лес, пачаў успамінаць пра тое, аб чым у нашай сям'і не гаварылася. Аб тым, што прабабця Маня так баялася падарожнічаць, таму што ў 1915 годзе перажыла бежанства. Аб тым, што падчас вайны не мог хадзіць са стрэльбай на зайца, таму што калі б немцы ўбачылі яго, забілі б. І менавіта дзякуючы таму, што ўвайшлі немцы, саветы не дэпартавалі іх як кулакоў. А калі пасвіў кароў у лесе, баяўся, што сустрэнецца з партызанамі — незалежна ад таго, ці савецкімі, ці польскімі. «Лясныя» заўсёды значылі праблемы... І пра тое, як пасля вайны пайшоў на танцы і сустрэў двух суседзяў з вёскі па суседстве, што былі партызанамі; мусіў бегчы праз акно, бо кінулі ў яго бок: «А што гэты тут робіць? Біць кацапа!». Праляжаў быў у рове ля ракі да раніцы, баяўся, што яны прыйдуць па яго дадому. Ведаў, што не адпусцяць — вядома, праваслаўны, дык напэўна «супрацоўнічае з новай народнай уладай». Дзедка расказваў мне, як і яго бацька кожны дзень пасля таго як сцямнела ішоў у поле і кляўся ў збожжы. Заўсёды ў белай кашулі. На выпадак, калі б ЯНЫ прыйшлі. Расказаў таксама пра Стэфана, што ляжыць побач прапрадзедаў на могілках. Той што згінуў пасля вайны ад кулі. Расказаў пра яго калі я была ўжо ў ліцэі: бачыў як яго застрэлілі. Стэфан быў такі добры, кожнаму жадаў толькі дабра... Карціна «Забойства Стэфана» ўяўляе сабой палатно 2 на 3 метры. Малявала я тую ж карціну на сцяне лофта, малявала Стэфана ў дзясяткі разоў.

... Тое, што праваслаўе нас вылучае, я ведала ад заўсёды. Не ведала, аднак, чаму бабуля і дзедка гавораць па-польску, хоць іх першай мовай была беларуская. А чаму прабабуля Маня нічога па-польску не сказала? Я пачала задавацца пытаннем, хто я. А чаму гісторыя, якую я ведаю са школы, іншая чым тая, якую ведаў дзедка...

... Мне ў мастацкай акадэміі казалі, што я лішне гжэчная, ветлівая. А мастак павінен мець нешта шалёнае, агонь! Я той агонь атрымала ад гэтых дзедкавых аповедаў. Пасля таго, калі ён распавёў мне пра Стэфана, я пачала маляваць сцэны з яго дзяцінства ў розных канфігурацыях: з калабарацыяністамі, немцамі, суседзямі з сяла, партызанамі... Я ператорвала іх зноў і зноў. Перажывала ў сабе гэтыя гісторыі, і адчувала гнеў. Што пра тую крыўду ніхто не чуе, што беларусы Падляшша не маюць свайго голасу. Ад свайго дзеда я атрымала таксама долю бунту... Узнікла з гэтага серыя карцін, дзякуючы якой атрымала я дыплом у Акадэміі мастацтваў. Выставіла іх у варшаўскім Цэнтры сучаснага мастацтва «Замак Уяздоўскі», была намінавана да конкурсу «Самсунг Артмастер». Але толькі праз некалькі гадоў я змагла паказаць іх у Крынках, Супраслі, Гайнаўцы. Аказалася, што гэта не толькі мой асабісты пункт гледжання, мой вопыт. Мне ўдалося ўлавіць штосьці важнае для іншых членаў беларускай грамады. І тое, што я ейная частка, хаця не ўмею добра гаварыць па-беларуску.

Запісала **Міра ЛУКША**





# Вакол Украіны

На ўсходзе Украіны зноў забіваюць людзей. Гарматы, грады, тэхніка і жывая сіла — усё прыведзена ў дзеянне. Стрэлы, узрывы, атакі, абарона і, зразумела, ахвяры сярод непасрэдна тых, хто ваюе з абодвух бакоў, і не толькі сярод іх... Хтосьці проста жыў у тым месцы, куды паляцелі снарады, хацеў жыць далей. Не атрымалася нават проста жыць. Хоць як, хоць дзе, але каб жыць... Зрэшты, забітым жаўнерам таксама хацелася жыць. Вельмі моцна хацелася...

Гэта не першы раз ужо там. Так ужо было. Было зусім нядаўна. А пасля з'явілися надзеі, што ўвесь цывілізаваны свет не пацярпіць у цэнтры Еўропы такога жаху. Надзеі не спраўдзіліся. Выслоўе „заграніца нам паможа" па-ранейшаму належыць літаратурнаму герою і ў рэальным жыцці мае прыкладна такі ж саркастычны сэнс, як і ў неўміручым мастацкім творы. Але тапелец за саломку хапаецца. Чалавек заўсёды верыць у тое, у што яму хочацца верыць, асабліва калі няма другога выйсця. І людзі, якія жылі ў небяспечнай зоне, зноў паверылі. У адваротным выпадку ўцяклі б адтуль. Але ім цынічна падкінулі новыя надзеі, прапісаныя ў так званых Мінскіх пагадненнях. Там задэкларавана і спыненне агню, і перамовы, і дэлегацыі, і адвод цяжкіх узбраенняў з абодвух бакоў, і палітычныя дывідэнды... Ну а чаму б не запісаць гэта ўсё на паперу?! Дзеля нейкіх сваіх мэт, або нават дзеля забавы або разнастайнасці. Як казаў класік — папера ўсё сцерпіць.

Такога сцэнарыя, як на гэтай паперы, які замарожваў сітуацыю, хацела б напэўна еўрапейская палітычная эліта. Бо калі яна не можа нічога істотнага зрабіць у гэтым рэгіёне і нездольная аніякім чынам паўплываць на працэс увогуле, і ў прынцыпе не можа прыняць аніякага радыкальнага палітычнага і практычнага дзеяння, то хай усё хаця б цягнулася на іх думку так, як цягнулася. У замарожаным і вяла цякучым стане, дзе хоць крыху і пастрэльваюць, але даюць мажлівасць заявіць, што з большага Мінскія пагадненні даюць плён і адчыняюць новыя перспектывы для дыялогу Еўропы з Крамлём.

Не атрымалася і не магло атрымацца, бо ў тое, што можа атрымацца, не верыў ніхто ад самога пачатку, нават тыя, хто падпісваў дакументы ў беларускай сталіцы.

І вось цяпер зноў тэрмінова на экстранныя пасяджэнні збіраюцца дыпламатычныя структуры, назвы якіх ужо і называць не хочацца. Для іх чарговае абвастрэнне на Украіне стала „нечаканасцю"! Ой, якія наіўныя людзі!!! А можа не наіўныя? Можа трэба пашукаць іншае слова для іх азначэння?! Хочацца ў іх спытаць словамі аднаго з герояў фільма „Усё той жа Мюнхаўзен", які спытаў свайго галоўнакамандуючага, калі пасля аб'яўленага перамір'я пачуў страляніну: „Яны што ў вас, газет не чытаюць?".

Але здаецца, што сённяшнія вялікія людзі, ад якіх залежаць лёсаносныя рашэнні, сапраўды газет не чытаюць. І нічога не чытаюць. Усе сур'ёзныя аналітыкі прадказвалі менавіта такое развіццё падзей на ўсходзе Украіны і ўвогуле ў рэгіёне, якое і здарылася. І не хавалі сваіх прадказанняў, а друкавалі іх у прэсе з аналізам і доказамі.

Чаму іх ніхто не браў пад увагу? Як гаворыцца — не маеце свайго розуму, дык жывіце розумам іншых. Але ж як не маеш свайго розуму, то па гэтай жа банальнай прычыне і не ведаеш пра гэта. Па гэтай жа прычыне не можаш ацаніць і здольнасці іншых.

Вось і з'явілася новая еўрапейская палітыка, якая прадугледжвае пацяпленне адносін з Крамлём. Яшчэ да апошняга ўзброенага канфлікту на Украіне з'явілася. І ўжо аніякія падзеі не могуць на гэта паўплываць. А еўрапейскія палітыкі цынічна заклікаюць абодва бакі спыніцца раўназначна.

І вось ужо і еўрапейская прэса з асцярожнасцю паведамляе, што цяжка разабрацца, хто першы пачаў страляніну. І пішуць ужо не пра Украіну, а вакол Украіны. А большасць СМІ здаецца ўвогуле перастала цікавіць гэтая тэма. Я ўжо не гавару аб прэсе ў краінах СНД, нават пра тую, якая называе сябе незалежнай.

А каб разабрацца што да чаго, асвятліць трэба ўсяго адно толькі пытанне. І гэтае пытанне: на тэрыторыі чыёй краіны вядуцца баявыя дзеянні?

❖ **Віктар САЗОНАЎ**



# Via Польшча

Беларусь — як недапечаная бульбіна ў агні распаленым пуцінскай Расіяй. Скуранка яе ўжо прыпяклася, але сярэдзіна ўсё яшчэ сырая. Іншымі словамі: для спажывання яшчэ негатовая. Але хто ўжо ласы, займае бліжэйшыя пазіцыі. Побач з кастром, але не заблізка. Хто з моцным кіёчкам у жмені, а хто толькі з голымі рукамі. Бліжэй да бульбінкі мае Масква, забяспечаная тугой палкай з раздвоеным канцом. З аднаго боку праз залежнасць Беларусі ад яе ўнутранага рынку і трансфер стратэгічнай сыравіны, з другога боку — праз свой нахабны палітычны і ваенны экспансіянізм. Але і Захад, сцісла асацыяваны з Еўрапейскім Саюзам і яго натуральным саюзнікам Злучанымі Штатамі, да яе не надта далёка. Праз Польшчу. Толькі на халеру Польшчы пхацца голымі рукамі ў прысак?

Калочкам, праўда, прымітыўным інструментам, можаце зрабіць многае. Ці то лягчэй ім выгарнуць з прыску смакавітую бульбіну, ці натрапаць па лапах іншых ахвотных. Трэба яго мець. А ў Польшчы яго няма. Акрамя Расіі, якая ахвотна глынула б ужо цяпер беларускую бульбінку, ніхто больш не мае апетыту да недапечаны прадукт. Беларусь, са сваёй экстэнсіўнай гаспадаркай, антыдэмакратычным рэжымам і расчараваным грамадствам з нявызначанай да канца ідэнтычнасцю, для Еўропы цяжкатраўная. Тым больш, што яе страўнік перанёс балючую нястраўнасць, калі тут да ўлады прыйшло ПіС, а Венгрыяй яшчэ больш завалодаў Орбан. Праўда, Расія раздзьмула ў Беларусі агонь, але не для таго, каб спячы бульбу. Ёй ідзе пра нешта большае — пра тое, каб не патух агонь у гэтай частцы Еўропы. Бульбу заўсёды можа з'есці. У любой нагодзе. Або без выпадку. Гэта Расія можа, мяркуючы па Крыме і Данбасе.

Здаецца, што кіруючыя Польшчай у чымсьці забыліся. Замест тушыць расійскі агонь, вострыць сабе апетыт да печанай бульбы. З «валенродаўскім» запалам, шкодзячы Еўрапейскаму Саюзу, у цяперашні час Польшча будуе сваю бяспеку на саюзе са Злучанымі Штатамі. Яны, аднак, праз палітыку новага прэзідэнта, ахвотна сімпатызуюць Пуціну, выразна раздзяляюць свае інтарэсы ад усё больш супярэчлівых інтарэсаў краін ЕС, у тым ліку Польшчы. На самой справе, бліжэйшая трампаўская Амерыцы Расія, якая з усіх сіл спрабуе змагацца з кітайскай экспансіяй, чым далёкая Еўропа. А Еўропа, у сваю чаргу, знаходзіцца бліжэй да расійскай нафты і газу, і свойскага бізнесу, які ўкладвае большыя сродкі ў расійскую эканоміку, чым Польшча. Асабліва такая Польшча, якой яна зараз стала: супрацьеўрасюзная, супрацьрасійская, антыліберальная, антыдэмакратычная. Польшча поўная комплексаў і цалкам неўрапейская. Ці не з гэтага вынікае цікавасць яе цяперашняй улады да суседняй Беларусі?

Еўропа такая, якую мы ведалі, аб'яднаная салідарнай знешняй і ўнутранай палітыкай, у адпаведнасці з Шэнгенскай дамовай і культурнай спадчынай 27 краін, развальваецца на нашых вачах. Не без разбуральнага ўдзелу ў гэтым «пісаўскай» Польшчы і «орбанаўскай» Венгрыі. Усё ж, не трэба спадзявацца, што ўсе краіны Еўрасаюза хочуць адмовіцца ад ідэі супольнасці. З Польшчай або без Польшчы — але, верагодна, без Польшчы, і без Венгрыі, на самой справе і без якіхсьці яшчэ еўрасаюзных нуварышаў — частка з іх створаць новую эканамічную і палітычную сутнасць. У Брусэлі ўсё больш ясна гаворыцца аб неабходнасці падзелу ЕС на краіны лепшыя і горшыя. Элегантна называецца гэта «хуткасцямі». Краіны «другой хуткасці», такія як Польшча, Венгрыя, Румынія і Балгарыя, адстаючы ад вядучых, рана ці позна адпадуць ад еўрасаюзнага пелетону. Наколькі лягчэй будзе іншым краінам утрымліваць адпаведную хуткасць ва ўмовах глабальнай канкурэнцыі! Няма іншага шляху, як толькі супольна. З улікам узрастаючага расійскага імперыялізму і экспансіянізму Кітая, ніякая, нават самая моцная еўрапейская краіна не ў стане справіцца ў адзіночку з палітычнымі, эканамічнымі і ваеннымі выклікамі, якія два гэтыя сусветныя гіганты ставяць перад Захадам. Але каб стаць сілай, якая выклікае павагу, трэба быць салідарнымі, таксама з пункту гледжання дэмакратычных каштоўнасцей. На жаль, у гэты раз ігнаруючы іх, Польшча самавыключаецца з заходняй супольнасці. Паварот у бок Беларусі і калупанне ў агні распаленым там Расіяй можа выклікаць падпал па ўсёй Еўропе. Via Польшча. Польскімі рукамі.

❖ **Міраслаў ГРЫКА**



## Сваімі вачыма

# Колькі аб'ектыўнасці ў «Аб'ектыве»?

У гэтым нумары «Нівы» свае заўвагі намерваўся я прысвяціць розным заслонам і пацяпленням у польска-беларускіх адносінах. Вядома, меў я тут на ўвазе інтэнсіфікацыю ў апошнім часе палітычна-эканамічных кантактаў паміж польскімі і беларускімі ўладамі. Хто ад гэтага, неспадзяванага прытоку ўзаемалюбові акажацца, мякка кажучы, у дурнях, пакажа найбліжэйшы час. Але адно пэўнае — ад такіх жорсткіх палітычных паваротаў няблага могуць атрымаць па галаве нацыянальныя меншасці ў абедзвюх краінах — беларуская ў Польшчы і польская ў Беларусі. Хочам ці не хочам, але, на жаль, пастаянна знаходзімся ў ролі заложнікаў дыпламатычных інтрыг нашага памежжа. І калі два бакі трубяць пра падпісанне новых пагадненняў і аб супрацоўніцтве, таксама і ў галіне асветна-культурных кантактаў, то, здаецца, на справу гістарычных, крывавых падзей на Беласточчыне ў пасляваенны час не толькі спушчана заслона маўчання, але і пачалося «выпраўлянне і змаганне» нават з той праўдай, якая была прызнана Інстытутам нацыянальнай памяці больш за дзесяць гадоў таму. Справа тут у спробе абяліць і зрабіць беззаганным перш за ўсё асобу Рамуальда Райса «Бурага», адказнага за пацыфікацыю беларускіх вёсак і смерць нявінных людзей.

Калі ў мінулым 2016 годзе мы ўсе разам у задуме ўспаміналі трагічную, сямідзясятую гадавіну тых падзей, не ўяўляў я сабе, што ў ролі фальсіфікатара і першапраходца новай гістарычнай палітыкі выступяць журналісты Беластоцкага аддзялення Польскага тэлебачання. Думаю, што новапрызначаная праграмная рада беластоцкага тэлецэнтра, у якой засядае вядомы праваслаўны дзеяч Адам Мусюк, паглядзеўшы выданне навінной перадачы «Аб'ектыў» ад 31 студзеня 2017 г., якая выйшла ў тэлеэфір а гадзіне 21.30, павінна заняцца не толькі ананімным аўтарам матэрыялу (сорамна яму перад кім), але ўзяць пад увагу і ацэнку дырэкцыі асяродка, якая заказвае і дае дабро на прэзентацыю такіх скандальных, непраўдзівых стужак. З нашага беларуска-праваслаўнага боку ў гэтай справе напэўна будуць вынесены пратэсты.

Крыху большая чым мінутная інфармацыя ў апошніх хвілінах выдання «Аб'ектыва» ўжо запісалася чорнымі літарамі ў гісторыі беластоцкага тэлебачання. Вельмі лёгка можна скампраметавацца на патрэбы бягучага, нейкага палітычнага заказу, які да гістарычнай праўды аніяк не маецца, не гаворачы пра элементарныя журналісцкія прынцыпы. Усю сітуацыю можна параўнаць да такога класічнага пытання наконт стандартаў савецкай журналістыкі: «Колькі праўды было на старонках газеты „Праўда"?». Сёння, парафразуючы класіку, мы пытаемся: «Колькі аб'ектыўнасці ў матэрыялах «Аб'ектыва»?». І нейкая туга па мінулым часе стала відавочнай нават у сцэнічным афармленні беластоцкай студыі навіннага выдання, у якой з'явіліся чырвоныя калоны. Рэдакцыя пад чырвонымі калонамі — гучыць няблага. Не хочацца, аднак, каб узровень грамадска-палітычнай журналістыкі беластоцкага тэлецэнтра не стаў нам асацыявацца з домам пад чырвонымі ліхтарамі. Таму варта маладым тэлевізійным «пісталетам» паглядзець яшчэ раз дакументальную кінастужку Юрыя Каліны «Сярожа», якая атрымала ўзнагароду Асацыяцыі польскіх журналістаў менавіта за пошукі гістарычнай праўды на фоне трагедыі асабістага лёсу героя са спаленых Залешанаў.

Таму сцвярджэнні, якія прагучалі ў журналісцкім матэрыяле «Аб'ектыва» пра 71 гадавіну трагедыі Залешанаў кшталту **«historycy podkreślają, że wydarzenia te nie miały podłoża narodowościowego i religijnego» ці «wydając rozkazy m.in. dotyczące białoruskich wsi działał w sytuacji stanu wyższej konieczności»** з'яўляюцца кампраметацыяй і шкодзяць польска-беларускім адносінам. Гістарычнай праўды от так сабе не зменіш, хоць можна з ёю змагацца доўгімі гадамі, бо гістарычная памяць заўсёды з'яўляецца памяццю народа. А кожны народ з'яўляецца вартаўніком і ахоўнікам свайго мінулага.

І калі цяпер польская дзяржава хоча рэалізаваць сваю вялікую, адукацыйна-нацыянальную палітыку наконт «выклятых жаўнераў», дык павінна таксама памятаць пра патрэбу быць у згодзе з гістарычнай праўдай. Бо ці ж не лозунг жыць у праўдзе не быў і не з'яўляецца надалей агульнахрысціянскім патрабаваннем?

❖ **Яўген ВАПА**

# Гайнаўская «Беларуская песня»

**Раённы адборачны агляд XXIV Агульнапольскага фестывалю «Беларуская песня — 2017», які 29 студзеня арганізавалі ў Гайнаўцы Галоўнае праўленне Беларускага грамадска-культурнага таварыства і Гайнаўскі дом культуры, быў шматлюдны. Падчас агляду запрэзентаваліся 21 выканаўца, якія спявалі па дзве песні на беларускай літаратурнай або дыялектнай мовах. Былі гэта перш за ўсё беларускія калектывы і хары, якія гуртуюць старэйшых спевакоў і моладзь, а ад іх вылучаліся і спявалі асобна салісты, дуэты і квартэты.**



■ Першае раўнапраўнае месца ў катэгорыі сучаснай песні атрымала Студыя эстраднай песні ГДК. З ліку салістаў першае месца заняла Юліта Ваўрашук (першая злева), другое — Марлена Бяглюк (другая злева), а трэцяе — Караліна Мірак (чацвёртая злева)



■ У катэгорыі сучаснай песні камісія першае месца прызначыла хору «Рэха пушчы» з ГДК, а сярод вакальных калектываў першае раўнапраўнае месца атрымала жаночая група гэтага ж хору



■ У катэгорыі фальклорнай апрацаванай песні першае месца заняў квінтэт «Доўгі вечар» з Гайнаўкі

У Гайнаўскім доме культуры сабралася многа публікі, сярод якой вялікую частку складалі маладыя асобы. Беларускае мерапрыемства ўдастоілі стараста Гайнаўскага павета Міраслаў Раманюк, бургамістр Гайнаўкі Ежы Сірак і яго намеснік Андрэй Скепка, войт Гайнаўскай гміны Люцына Смактуновіч, старшыня БГКТ Ян Сычэўскі, дэкан Гайнаўскай акругі і настаяцель Свята-Троіцкага прыхода ў Гайнаўцы мітрафорны протаіерэй Міхаіл Негярэвіч, старшыня Аб'яднання «Любіцелі царкоўнай музыкі» ў Гайнаўцы і былы бургамістр Гайнаўкі Анатоль Ахрыцюк, ваяводскія, павятовыя і гмінныя раднуя. Гасцей і публіку вітаў дырэктар ГДК Расціслаў Кунцэвіч. Разам з намеснікам старшыні ГП БГКТ Васілём Сегенем адкрыў ён гайнаўскі адборачны агляд беларускага фестывалю.

— У Гайнаўцы выступае многа маладых выканаўцаў. Моладзь ідзе ў больш сучасную, нават часам авангардную манеру выконвання беларускай песні. Старэйшае пакаленне застаецца пры народным, часта фальклорным выкананні, хаця неапрацаванага фальклору на сцэне штораз менш. Ад сустрэчы з беларускай песняй застаецца асалода. Гайнаўскі раённы адборачны агляд шматлюдны, таксама як адборачныя туры ў Бельску-Падляшскім і Беластоку. Гайнаўскі дом культуры, суарганізатар сённяшняга мерапрыемства, разумее патрэбу прапагандавання беларускай культуры. Моладзь, якая займаецца ў Студыі эстраднай песні ГДК, прыгожа спявае сучасныя беларускія песні, а народныя калектывы з Гайнаўкі і наваколля захоўваюць нашы традыцыі, — сказаў Васіль Сегень, віцэ-старшыня БГКТ. Мерапрыемства вяла Паўліна Паўлючук-Коська.

У Гайнаўскім доме культуры ўдала дзейнічае беларускі хор «Рэха пушчы», заснаваны па ініцыятыве мясцовых дзеячаў. Штогод прымае ён удзел у фестывалі «Беларуская песня», выступае на беларускіх мерапрыемствах і польскіх імпрэзах. Падчас адборачнага агляду гайнаўскія харысты цікава і на высокім мастацкім узроўні запрэзентаваліся ў поўным саставе і як жаночая група. Музычны кіраўнік хору Аліна Негярэвіч сказала, што «Рэха пушчы» многа калядавала, але шмат часу адвяла падрыхтоўцы да фестывалю. Паспяхова працуе Студыя эстраднай песні ГДК, у якой дзеткі пад кірункам Марты Грэдаль-Іванюк пачынаюць вучыцца спяваць з першых класаў пачатковай школы. Маладыя выканаўцы са Студыі песні ГДК спявалі сучасныя творы калектыўна і сола. Позним вечарам аказалася, што конкурсная камісія, у якой працавалі Магда Врублеўская, Анна Васькоўская і Мацей Муха, першае месца ў катэгорыі сучаснай песні прызначыла хору «Рэха пушчы», а сярод вакальных калектываў першае раўнапраўнае месца атрымалі Студыя эстраднай песні ГДК і жаночая група «Рэха пушчы». З ліку салістаў першае месца заняла Юліта Ваўрашук, другое — Марлена Бяглюк, а трэцяе — Караліна Мірак, усе са Студыі песні ГДК.

— Я стараюся выступаць з больш складанымі творамі, але конкурсныя камісіі звяртаюць увагу таксама на песні, якія асабліва падабаюцца публіцы, — гаварыла Юліта Ваўрашук, якая, будучы вучаніцай Гайнаўскага белліцэя, ахвотна выступала сола з беларускімі песнямі падчас школьных мерапрыемстваў.

Марлена Бяглюк сказала, што здаўна ўдзельнічае ў фестывалі «Беларуская песня». Цяпер займаецца ў Студыі песні ГДК, а раней, калі вучылася ў Гайнаўскім белліцэі, спявала разам са «Знічкай» і з абодвума калектывамі дабівалася поспехаў. Іза Карчэўская і Кася Дружба, таксама са Студыі песні ГДК, дабавілі, што раней многа разоў паспяхова выступалі на конкурсах беларускай песні для школьнікаў.

Сярод калектываў у катэгорыі сучаснай песні трэцяе месца атрымала жаночая група калектыву «Чыжавяне» з Чыжоў, а вылучэнне было прызначана калектыву «Знічка» з Гайнаўскага белліцэя.

— Мы любім спяваць і ахвотна выступаем з беларускімі песнямі, — заявіла Хрысціня Гаўрылюк з «Чыжавян», якія ўдала спявалі ў жаночай і мужчынскай групах ды поўным складзе. Акампанемент на акардэоне састаўляў ім музычны кіраўнік Юры Ганевіч з Гродна.

Выступы белліцэйскай «Знічкі» гайнаўская публіка заўсёды ўспрымае з вялікім зацікаўленнем. Так было і на гэты раз, калі «Знічка» запрэзентавалася з новым рэпертуарам. Іх музычны кіраўнік Бажэна Вінцонак сказала, што складана сабраць вучняў на раённы адборачны агляд падчас зімовых канікулаў, бо частка моладзі выязджае па-за месца пастаяннага жыхарства.

Наталля Васько, якая другі год выступае ў «Знічцы», нядаўна атрымала стыпендыю старшыні Рады Міністраў РП за поспехі ў вучобе. У мінулым школьным годзе атрымала яна званне лаўрэата Алімпіяды па беларускай мове і фіналіста Алімпіяды праваслаўных рэлігійных ведаў. Былі ў яе таксама поспехі ў дэкламатарскіх і мастацкіх конкурсах. З'яўляецца яна таксама карэспандэнтам нашай «Нівы».

Публіцы асабліва спадабаўся выступ квінтэта «Доўгі вечар» з Гайнаўкі, які сярод вакальных калектываў у катэгорыі фальклорнай апрацаванай песні атрымаў першае месца. Дзейнасцю квінтэту «Доўгі вечар» кіруе выпускнік Гайнаўскага белліцэя Каміль Васілюк. Сярод вакальных калектываў, якія спяваюць апрацаваныя фальклорныя песні, трэцяе месца занялі жаночая група хору «Цаглінкі» з Ляўкова і «Чыжавяне» з Чыжоў, а вылучэнне атрымаў калектыў «Жаваранкі» з Махнатага. З ліку дуэтаў, тэрцэтаў і квартэтаў вылучэнне атрымалі мужчынская група «Чыжавян» і квартэт «Цаглінак». Сярод вакальна-інструментальных калектываў трэцяе месца заняў гурт «Верасы» з Чыжоў, а вылучэнне атрымаў калектыў «Ручаёк» з Белавежы. У катэгорыі хароў было прызначана адно месца: хор «Цаглінкі» з Ляўкова, заспяваўшы апрацаваныя народныя творы, заняў трэцяе месца. Няцэлы год таму ў Моры быў створаны калектыў «Чайкі», які цікава запрэзентаваўся перад публікай. Яго ўдзельніцы Ніна Далінская і Вера Баўтрамюк асобна праспявалі песні сваіх бабуль.

— Мы з мужам спявалі ў чыжоўскім калектыве «Верасы». Вясной мінулага года рашыліся заснаваць свой калектыў у Моры, які назвалі «Чайкі». Наш рэпертуар складаюць песні, якія бытаваліся ў Моры і наваколлі, — сказала Вера Баўтрамюк, кіраўнік калектыву «Чайкі».

Цікава запрэзентаваліся «Верасы» з Чыжоў, якія пачыналі сваю дзейнасць як калектыў Кружка пенсіянераў і інвалідаў у Чыжах.

— Цяпер у нас спяваюць прадстаўнікі трох пакаленняў. Мы лічым «Верасы» беларускім калектывам, але спяваем таксама на іншых мовах. Пры нашым калектыве створана таксама капэла, у якой я іграю на скрыпцы, іншыя іграюць на гітары, акардэоне, тамбурыне. Мы састаўляем акампанемент для спевакоў, — сказала музычны кіраўнік «Верасоў» Ірэна Лукашук.

З Нараўкі прыехаў беларускі калектыў «Нараўчанкі», якога да адборачнага агляду падрыхтаваў Пётр Скепка. Хаця «Нараўчанкі» не дабіліся поспехаў, то на ўвагу заслугоўвае іх нядаўна створаная інструментальная капэла. Калектыў «Ручаёк» з Белавежы пастаянна выступае з беларускім рэпертуарам і цікава яго запрэзентаваў на сцэне агляду. Музычны кіраўнік «Ручайка» Марк Зубрыцкі падрыхтаваў да агляду таксама калектыў «Жаваранкі» з Махнатага, з якім дадаткова займаецца ад ліпеня мінулага года. Найдаўжэй выступаў на сцэне хор «Цаглінкі» са Старога Ляўкова — спявалі ў поўным складзе, мужчынская і жаночая групы ды квартэт. Выканаўцы з Ляўкова зацікавілі публіку, якая, нягледзячы на доўгія выступы, не разыходзілася дамоў і засталася да канца адборачнага агляду.

— Я стараюся дастасаваць рэпертуар, мясцовыя песні Нараўчанскай гміны і нашы народныя беларускія песні ў маёй апрацоўцы да вакальных магчымасцей нашых спевакоў, частка з якіх ужо ў старэйшым узросце. Сёння мы заспяваем адну песню на словы нашага паэта з Альхоўкі Міколы Варанецкага (удала выступіў ён раней у «Нараўчанках» — А. М.) і на маю музыку, — сказаў музычны кіраўнік «Цаглінак» Мікола Мяжэнны.

У Гайнаўскім павеце, з якога на адборачны агляд з'ехаліся ў Гайнаўку калектывы і хары, найбольш расспяванымі з'яўляюцца самадзейнікі з Гайнаўкі, Чыжоўскай (выступілі 3 калектывы) і Нараўчанскай (спявалі хор і калектыў) гмін. Па адным калектыве прадставілі Гайнаўскую і Белавежскую гміны. Калектывы «Гармонь» з Ласінкі і «Шымчук Бэнд» з Гайнаўкі былі кваліфікаваны і выступяць на раённых адборачных аглядах у Бельску-Падляшскім і Беластоку. Пераможцы ўсіх раённых аглядаў, якія праходзілі таксама ў Дуброве-Беластоцкай і Сямятычах, будуць змагацца за першынство на цэнтральным адборачным туры фестывалю, які 11 лютага адбудзецца ў Падляшскай філармоніі па вуліцы Падлеснай у Беластоку. Фестываль завершыцца 17 лютага гала-канцэртам у Падляшскай оперы і філармоніі па вуліцы Адэскай у Беластоку, які пачнецца ў 19 гадзін.

Тэкст і фота **Аляксея МАРОЗА**

## «Сярожа» Юрыя Каліны атрымаў прэмію Асацыяцыі польскіх журналістаў

Дакументальны фільм «Белсату», які зняў Юрый Каліна, атрымаў узнагароду Асацыяцыі польскіх журналістаў у катэгорыі «за публікацыю на тэму сучаснай цывілізацыі і культуры, а таксама распаўсюджванне ведаў».

Фільм распавядае пра жыццё Сяргея Нічыпарука, які прайшоў шлях ад актывіста ідэалагічнай камуністычнай салідарнасці да слухача праваслаўнай семінарыі, каб стаць напрыканцы паспяховым бізнесоўцам.

Жыццё героя адзначана траўмай — родная вёска Залышаны была спаленая ў 1946 годзе філіялам аварыйна-выратавальных работ NSZ, якім камандаваў капітан Рамуальд Райс «Буры». Падчас гэтай акцыі частка сям'і Нічыпарука загінула.

У гэтым сэнсе ягоная біяграфія — адлюстраванне лёсу цэлай беларускай праваслаўнай меншасці, якая жыве ва ўсходняй частцы Падляшскага ваяводства. Продкі Сяргея паходзілі з невялікай беднай вёскі, стагоддзямі працавалі на раллі, маліліся ў праваслаўнай царкве, са страхам у вачах прымалі кожную змену ўлады, але ў той жа час намагаліся спадабацца новым уладам і прыстасавацца да новых варункаў.

Цяпер герой фільма Сяргей Нічыпарук жыве ў вёсцы Буды ў Белавежскай пушчы.

Раней стужка «Сярожа» ўжо была адзначана на кінафестывалях у Кіеве, Днепрапятроўску (Украіна), Маскве і Обнінску (Расея).

**Belsat.eu**

## У Брэст без візы?..

Цяперашняя ўлада пачала ладзіць добрасуседскія адносіны з Беларуссю. Сведчаць аб гэтым візіты ў Беларусь міністра замежных спраў Вітальда Вашчыкоўскага і маршалка Сената Станіслава Карчэўскага ды іх сустрэчы з прэзідэнтам РБ Аляксандрам Лукашэнкам. У выніку перагавораў ад кастрычніка мінулага года ў Гродна можна падавацца без візы. Бязвізавая зона ахоплівае горад Гродна, яго наваколле, а таксама беларускую частку Аўгустоўскага канала. Мясцовыя ўлады станоўча ацанілі памежныя кантакты, таму хочуць арганізаваць для палякаў чарговыя бязвізавыя зоны. Мяркуецца, што з кастрычніка г.г. без візы можна будзе падацца ў Брэст. Радуецца такой прапанове бургамістр Тарэспаля, паколькі ад даўжэйшага часу ладзяць яны з беларускімі сябрамі шматлікія дамовы на культурнай і спартыўнай ніве. Ідэальным рашэннем было б ажыццяўленне такой зоны ў Тарэспалі, каб беларусы маглі прыязджаць без візы. Беларускі бок можа практыкаваць прынятыя развязкі таму, што на такую магчымасць дазваляе заканадаўства. Польскі ўрад знаходзіцца ў іншым становішчы, паколькі мяжа з Беларуссю з'яўляецца заадно вонкавай мяжой Еўрасаюза. А перасяканне мяжы адбываецца па правілах Шэнгенскай дамовы.Таму польскі бок не можа ажыццявіць падобных аблягчэнняў, якія ўводзяць беларускія ўлады. Адзінай развязкай у гэтай справе было б увядзенне малога памежнага руху. Але на гэты раз няма пакуль што канкрэтаў — паясняе прэс-сакратар міністэрства замежных спраў.

**(ус)**





■ Забавы з Рапелькай і яе мастацкія макіяжы

# На канікулах у Крынках

**Працаўніца Кузніцкага дома культуры, вядомая як Рапелька, задумвалася ці хаця нехта ўвогуле прыйдзе. Прыехала ў Крынкі па запрашэнні дырэкtаркі Крынскага дома культуры Альжбеты Чарэмхі, каб правесці заняткі з дзяцьмі ў рамках зімовых канікулаў. Госця надта здзівілася, убачыўшы пад сотню дзяцей і іх бацькоў. Рапелька сапраўды мела поўныя рукі працы. З раніцы да вечара расфарбоўвала твары — малявала мастацкія макіяжы, у тым ліку спадарыні дырэктар, вучыла рабіць звяркоў з балонікаў, вяла інтэграцыйныя гульні.**

— Як гэта магчыма, каб столькі людзей прыйшло ў дом культуры? — пытала пасля спадарыню Альжбету.

Да Элі ў дом культуры папросту цягнуцца і старыя, і малыя. Заўсёды так было. Сакрэт заключаецца ў сапраўдным працоўным прызванні. Яна аддае сябе іншым і робіць гэта з вялікай прыемнасцю.

У аўторак прыехалі надзіманыя батут і горкі. Зацікаўленасць атракцыёнамі вялікая, некаторыя бацькі нават наракалі, што прыходзіцца ім стаяць у чэргах. І так з раніцы да вечара. А пасля мастацкія заняткі і яшчэ рэпетыцыя з кабарэ недзе да дзесяці вечара. У той дзень Эля працавала з галаўным болем, але ісці дахаты нават не думала, не шкадавала сябе. Асноўнае, што ўсе добра гуляюць. У праграме канікулаў, як заўсёды, шмат спартыўных турніраў і, вядома, забава ў кухню са спадарствам Гражынай і Марыянам Бараноўскімі. На прошлым тыдні пяклі дражджавыя рулеты з цынамонам. Дзецям рулеты так смакавалі, што ледзь за іх не пабіліся. На гэтым тыдні злепяць традыцыйныя варэнікі і сучасную італьянскую піцу. З заняткаў у доме культуры цешыцца Эдыта Чарнецкая — маці Мілены, Мацея і Шымона.

— Напярэдадні заняткаў мае дзеці ад нуды прыраслі да канапы і тэлевізара. Без школы і дома культуры яны проста не могуць жыць, — гаворыць маці.

Шымон і яго сястра Мілена прынялі ўдзел у арганізаваным спадарыняй Эляй вечары калядак. Выступалі ў якасці членаў і салістаў калектыву «Заранка». У рамках тых жа канікулаў было наладжаных некалькі батлеечных спектакляў, у тым ліку для жыхароў дома сацыяльнай апекі ў Лазнях. Нашы маладыя акцёры выступілі таксама ў Кузніцы.

— Вам неабходна прыйсці сёння на сустрэчу з падарожнікам, — кажа мне гімназіст Кацпар, з якім сустракаемся па дарозе ў дом культуры. — Учора ён паказваў жанчыну, якая нарадзіла дзіця ў полі і адразу вярнулася на працу.

Спадар Марыюш Курц прыехаў з далёкага Шчэціна з адзіным, велічнёй школьнай торбы, чырвоным ранцам. З такім жа, толькі сінім, пераехаў увесь свет, прытым некалькі разоў. Па свеце бегаў дваццаць чатыры гады. У тым часе давялося яму сустрэць на сваім шляху іншага бегуна — Сашу з Расеі. Начавалі разам у турбазе ў Сінгапуры, пасля зусім выпадкова апынуліся на палубе судна, якое плыло ў адну з краін вялікага холаду. У час сустрэчы з дзяцьмі спадар Марыюш паказваў свае фільмы, зняты ў розных краінах свету. Паказваў бескарысную гасціннасць арабаў і людзей з чорным колерам скуры. Хваліў туркаў, якія таксама дзяліліся з ім тым, што ў іх было. Спадарожнічаў у асноўным аўтастопам. Найгорш было ў халоднай Нарвегіі. Аднойчы ніхто там не спыніўся і прыйшлося яму начаваць на снезе, у тонкім спальным мяшку. Відавочна, халодны там не толькі клімат, але і людзі. Усё ж такі — не. Мой асабісты досвед з нарвежцамі быў па-афрыканску цёплы.

— І ведаеце, што для мяне асноўнае ў момантах перамогі над складанымі, жыццёвымі абставінамі? — пытае сабраных. — Гэтае слова пачынаецца з літары С, — падказвае.

«Свабода», — думаю сабе. Не, для Марыюша гэта папросту задавальненне папольску — сатысфакцыя.

Таня якраз святкавала свой дзень імянін і частавала ўсіх шакаладкамі.

— Чаго табе пажадаць? — пытае ў яе Марыюш.

— Каб стала студэнткай, — умешваюся. — Дарэчы, у Беларусі святая Таццяна з'яўляецца патронкай студэнтаў, — аб'ясняю.

Марыюш — абітурыент рэлігіязнаўства Ягелонскага ўніверсітэта. Навуку завяршыў нядаўна, на саракавым годзе жыцця. Вельмі шкадуе, што так позна ўзяўся за навуку, Столькі жыцця змарнаваў.

— Вучыцеся, — намаўляў сабраных дзетак, — і любіце людзей. Паверце мне, у свеце нашмат больш добрых, чым дрэнных людзей.

— Забярыце мяне ў падарожжа, — просіць яго Кацпар.

Марыюш, на жаль, ужо стаміўся дарогай. Вельмі тужыць па Сахары і ўвогуле па Афрыцы, нават магістарскую дысертацыю пісаў пра карэнныя афрыканскія рэлігіі. Цяпер хоча адпачыць. Толькі дзе? Можа ў Крынках?

Не дачакаў кульмінацыйнага пункта зімовых канікул — гульняў на снезе і кілбасак на вогнішчы ў Ганадскім лесе, што пры самой мяжы з Беларуссю.

Не паспела я яго запытаць, ці бегаючы кругом зямлі не забег у Беларусь. І нешта мне здаецца, што толькі там яго не было.

Тэкст і фота **Іаанны ЧАБАН**

# Сацыяльная дапамога ў Орлі

На тэрыторыі Арлянскай гміны (паводле Галоўнай статыстычнай управы) 25,7% ад агульнай колькасці дамашніх гаспадарстваў карыстаецца сацыяльнай дапамогай. Кожная чацвёртая сям'я патрабуе нейкай формы сацыяльнай падтрымкі.

Паводле Гміннага асяродка сацыяльнай дапамогі ў Орлі, у 2015 годзе дапамогай і падтрымкай пакарысталіся 94 сям'і, у іх ліку 297 асоб, а ў першым паўгоддзі 2016 года 249 асоб з 85 сем'яў.

Дапамога найбяднейшым зводзіцца да аплачвання харчавання дзяцей у школах, грашовых выплат або рэчавай дапамогі, мэтавых дапамог ды іншых форм, напрыклад сацыяльных стыпендый або лекавай праграмы.

Найчасцейшымі прычынамі росту складаных жыццёвых сітуацый, якія даюць падставу для хадайніцтва за дапамогай ад Гміннага асяродка сацыяльнай дапамогі ў Орлі ў 2015 годзе былі: беднасць — 63 сям'і (годам раней было 76), беспрацоўе — 36 (43), інваліднасць — 36 (42), апякунча-выхаваўчая бездапаможнасць — 25 (21), патрэба аховы мацярынства або шматдзетнасць — 19 (25), алкагалізм — 18 (21), працяглая або цяжкая хвароба — 14 (20), нядоля — 3 (0), наркаманія — 1 (1), бяздомнасць — 1 (1).

Сацыяльная дапамога з'яўляецца інструментам сацыяльнай палітыкі дзяржавы, накіраваным на дапамогу асобам і сем'ям дзеля пераадолення цяжкіх жыццёвых абставін, якіх яны самі не ў змозе адолець з дапамогай уласных рэсурсаў і магчымасцей. У лік гмінных уласных абавязковых задач уваходзяць, м.інш. прызначанне і выплачванне перыядычных, мэтавых ды пастаянных дапамог, а таксама стварэнне і запуск ахоўных праграм.

На сесіі 29 снежня 2016 года радныя прынялі пастанову наконт прыняцця Гміннай ахоўнай праграмы па паменшанні выдаткаў жыхароў Арлянскай гміны на лекі.

У Арлянскай гміне ў канцы 2016 года пражывала 2918 асоб. Ва ўзросце працоўнай актыўнасці зараз 1431 асоба, з ліку якіх каля 25% непрацаздольных, г.зн. 358 маючых пасведчанне пра інваліднасць. У пенсійным узросце (жанчыны за 60 гадоў і мужчыны за 65) у гміне 101 асоба і большасць з іх атрымлівае нізкія выплаты, большасць з іх атрымлівае з КРУС 882,56 зл.

Аналізуючы патрэбы дапамогі, устаноўлена, што нягледзячы на нізкія пенсійныя выплаты, іх аб'ём перавышае асноўны даходны крытэрый сацыяльнай дапамогі, г.зн. 634 зл. для адзінокай асобы і 514 зл. сямейніку. Таму ў 2016 годзе Гмінная рада павысіла даходны крытэрый на 1268 зл. адзінокім асобам і 1028 зл. сямейнікам дзеля таго, каб шырэйшая група жыхароў пакарысталася праграмай.

У Арлянскай гміне (а мяркую, што і ў іншых) асобы і сем'і, у якіх асобы працягла або цяжка хворыя, не ў змозе задаволіць элементарныя патрэбы са сваіх даходаў, асабліва выдаткі на запісаныя лекарамі лякарствы. А сістэматычны прыём лякарстваў неабходны, беручы пад увагу стан іх здароўя і ўзрост.

Выдаткі на лякарствы шматлікім асобам паглынаюць значную частку дамашняга бюджэту, чым прыводзяць да спаду жыццёвага ўзроўню, а часам нават да адрачэння ад пакупкі неабходных медыкаментаў. Запуск у жыццё Праграмы аказаўся рэальнай фінансавай падтрымкай, якая рэдукуе выдаткі на пакупку лякарстваў. Гміна вяртае палову выдаткаў. У 2016 годзе Праграмай пакарысталіся 132 сям'і, было здзейснена 600 выплат на суму амаль 48 тысяч злотаў. Людзі вельмі ўдзячныя за гэта і я, як радны, ад іх імя падзякаваў асабліва старшыні Рады і войту Пятру Сэльвесюку.

**Міхал МІНЦЭВІЧ**

# Камунікацыя ў Арлянскай гміне

**У 1960-1970 гадах аўтобусы, што ездзілі па брукаванай дарозе з Орлі ў Бельск, былі перапоўнены пасажырамі; аўтобусаў было замала. У чарговых, 1980-1990-х гадах, аўтобусы курсіравалі амаль штогадзінна. Сёння, калі дарогі вымашчаны асфальтам, зноў мала аўтобусаў, а і тыя возяць адзінокіх пасажыраў. У Арлянскай гміне меншае лік насельніцтва. Цягам няпоўных трыццаці гадоў лік насельніцтва значна паменшаў: у 1988 годзе ў самой Орлі пражывала каля дзвюх тысяч жыхароў, а ў цэлай гміне 4891 асоба, а 31 снежня 2016 года ў Орлі пражываў 901 жыхар, а ў гміне 2918 асоб. Большасць насельніцтва гміны складаюць пажылыя людзі. Хаця ў гміне вельмі добрая дарожная інфраструктура, аднак яе жыхарам — тым, што не маюць сваіх самаходаў — штораз цяжэй дастацца ў Бельск.**


Фота Аляксандра Вярбіцкага

Сама Орля мае толькі шэсць аўтобусных курсаў (цераз Спічкі або Вульку) у суткі: 7.19, 8.26, 10.30, 12.20, 14.46 і 15.58, у тым ліку пяць курсаў з панядзелка да пятніцы і адзін у суботу; няма ніводнага курса ў святочныя дні. Бывае, што аўтобус не прыязджае на назначаную гадзіну. Яшчэ годам раней было дзевяць спалучэнняў з Бельскам-Падляшскім. Цяперашнія курсы не даюць магчымасці даязджаць на працу ў Бельск. Толькі адна вёска — Крывятычы — мае чатыры аўтобусныя спалучэнні з Орляй, з панядзелка па пятніцу. Яшчэ пры камуне курсы ў Бельск былі што гадзіну-дзве: з 5-й да 22-й гадзіны; было таксама некалькі курсаў у Гайнаўку і назад.

Да 1995 года курсіравалі таксама цягнікі з адлеглага за тры кіламетры ад Орлі прыпынку Арлянка; на ўсе курсы былі пасажыры. Чыгункай даязджалі ў Гайнаўку вучні і рабочыя, а нават некалькі мужчын даязджала на працу ў Семяноўку.

У пачатку 1970-х гадоў на ранішнія аўтобусы ў Бельск было так многа ахвотных (вучняў і рабочых), што неабходныя былі месячныя білеты з пазначанай гадзінай. Тады было замала аўтобусаў для такой колькасці пасажыраў. Сёння аўтобусаў мала, а пасажыраў яшчэ менш — па некалькі асоб, а бывае, што аўтобус вязе толькі адну.

Цікава, што з Бельска ў Орлю было таксама многа пасажыраў, у тым ліку і ў даабедні час; былі гэта наогул вонкавыя людзі, якія падаваліся да мясцовай шаптухі Валі. Зараз усе наведвальнікі шаптухі прыязджаюць легкавушкамі. Адзінокія асобы даязджаюць аўтобусамі ў Бельск на працу, ёсць крыху вучняў і транспартная фірма стала скарачаць курсы.

На прыпынку ў Орлі толькі каля 7-й гадзіны раніцы крыху народу, калі вучні адпраўляюцца ў школы. Аднак цікава тое, што калі той аўтобус не прыедзе, тады тыя пасажыры саматужна арганізуюць даезд легкавушкамі. На апошнія курсы ахвотных толькі па некалькі асоб.

Пры санацыі людзі наогул перамяшчаліся пехатою, і ўсё было нармальна. Сёння такі пешаход выклікае здзіўленне. У Орлі ёсць адзін малады чалавек, які ўпадабаў пешыя шпацыры ў Бельск і нават калі нехта хоча яго падвезці — рашуча адмаўляе. Цягам некалькіх гадоў адна пенсіянерка хадзіла пяшком у Бельска ў Орлю і назад наведваць свой пустуючы сямейны дом. Летам некаторыя пенсіянеры ездзяць у Бельск на веласіпедзе за пакупкамі.

Што прынясе неадлеглая будучыня? Праз нейкі час і тых некалькіх курсаў між Орляй і Бельскам можа не быць. Можа Орлю далучаць да Бельска і тады сюды будзе даязджаць гарадскі транспарт... А можа буйнабюджэтная Арлянская гміна будзе фінансаваць пасажырскі транспарт?.. Усё магчымае, а час пакажа.

## Дарожная інфраструктура

На тэрыторыі Арлянскай гміны даўжыня дарог сягае за 255 кіламетраў. Тут пралягаюць наступныя дарогі

— краёвая дарога № 66 Замбраў — Высокае-Мазавецкае — Браньск — Бельск-Падляшскі — пагранпераход Полаўцы-Пяшчатка; яе даўжыня ў межах гміны 10,86 км;

— ваяводская дарога № 689 Бельск-Падляшскі — Гайнаўка — Белавежа; яе даўжыня ў межах гміны 4,4 км;

— павятовыя дарогі. Значная частка павятовых дарог на тэрыторыі гміны патрабуе абнаўлення бітумічнага насцілу, дарогі паслядоўна мадэрнізуюцца. Даўжыня павятовых дарог у межах гміны 88,175 км. Гміна супрацоўнічае з Павятовай управай дарог у перабудове і мадэрнізацыі павятовых дарог на сваёй тэрыторыі, суфінансуючы гэтыя інвестыцыі. У мінулым годзе была адрамантавана дарога ў Бельск.

— гмінныя дарогі; агульная даўжыня гмінных дарог 152,226 км. Тэхнічны стан гмінных дарог задавальняючы, аднак патрабуюць яны пастаяннага дагляду, частковых рамонтаў і нават грунтоўнай мадэрнізацыі. Неабходная ліквідацыя архітэктурных бар'ераў для інвалідаў, асабліва тратуараў і пешаходных пераходаў. Важнай справай з'яўляецца таксама пракладка веладарожак, якую можна здзяйсняць пры нагодзе дарожнай мадэрнізацыі. Цягам апошніх дзесяці гадоў перабудавана 51,83 км дарог і змадэрнізавана вулічнае асвятленне на тэрыторыі гміны.


FILM NA WSI

W Orli jest już stałe kino

26 września br. we wsi Orla otwarto stałe kino, z którego korzystać będą mogli i mieszkańcy okolicznych wsi.

Kino mieści się w budynku dawnej świetlicy gromadzkiej, który został całkowicie wyremontowany.

W uroczystości otwarcia kina wzięli udział m. in. przedstawiciel KP PZPR w Bielsku - Podlaskim tow. Aleksy Kierdasz i kierownik OZK w Białymstoku ob. Michał Pietkiewicz.

Otwarcia nowego kina dokonał przewodniczący GRN w Orli tow. Juszczuk, który podkreślił, że ludność Orli otrzymała w zeszłym roku doskonale wyposażony Dom Kultury, a obecnie wspaniałe kino dzięki trosce partii i władzy ludowej o podnoszenie poziomu kulturalnego ludzi pracujących. Fakt ten jest m. in. jednym z dowodów realizacji pokojowego budżetu naszego państwa w przeciwstawieniu do budżetów państw kapitalistycznych, przeznaczonych na cele wojenne.

Tow. Pietkiewicz kierownik OZK w Białymstoku powiedział m. in. „Nasze pokojowe budownictwo jest odpowiedzią na zakusy podżegaczy wojennych. Ale nie ma takiej siły na świecie, która by była zdolna zniszczyć owoce pracy robotników i chłopów w Polsce Ludowej".

Mieszkańcy Orli i pobliskich wsi okażą swą wdzięczność partii i władzy ludowej przez jeszcze bardziej aktywne włączenie się do walki o pokój. Przejawem tej wdzięczności będzie również terminowe wywiązanie się z obowiązków wobec państwa.

(8889)

Jan Gajko
korespondent

Паведамленне з 1953 года

Тэрыторыя Арлянскай гміны слаба забяспечана публічным аўтобусным транспартам. Адсутнічае ўнутраная адкрытая гмінная камунікацыя. Гміна арганізуе толькі закрыты транспарт вучняў у школы.

Да гэтага па ваяводскай дарозе між Бельскам-Падляшскім і Гайнаўкай у 2016 годзе курсіравала 13 пар аўтобусаў, па краёвай дарозе між Бельскам і Чаромхай цераз Кляшчэлі былі чатыры пары курсаў і адна пара між Сямятычамі і Беластокам цераз Кляшчэлі і Бельск-Падляшскі.

## Чыгуначны транспарт

Па тэрыторыі Арлянскай гміны пралягае аднапуцёвая чыгуначная лінія Беласток — Бельск-Падляшскі — Чаромха — Седльцы, па якой адбываецца пасажырскі і таварны транспарт. У межах гміны два чыгуначныя прыпынкі Падбелле і Рыгораўцы, якімі могуць карыстацца жыхары недалёкіх ад іх мясцовасцей Кошкі, Градалі, Рыгораўцы, Алекшы, Дыдулі. Развіццё дарожнай сеткі і буйнеючы аўтамабільны транспарт пры адначасным пагаршэнні тэхнічнага стану чыгуначнай інфраструктуры і падаючы лік чыгуначных курсаў вядуць да спаду ліку карыстальнікаў чыгункі.

У рамках падгатоўчых прац да далейшай мадэрнізацыі лініі Rail Baltica між Беластокам і Варшавай і прадбачванае ў сувязі з гэтым часовае закрыццё некаторых яе адрэзкаў і накіраванне аб'язнога чыгуначнага руху на лінію Беласток — Седльцы — Варшава, плануецца ў найбліжэйшым часе мадэрнізацыя апошняй, частка якой пралягае па тэрыторыі Арлянскай гміны.

Міхал МІНЦЭВІЧ

*Уладзімір САСНА*

* * *

**Пісаць прыгожа не ўмею,
дык я ж не паэта.
Мая вёсачка-радзіма,
Пашкоўшчына гэта.
Тут я першы шаг ступаў,
тут і пражываю;
другой мясціны, такой
як Пашкоўшчына,
я не знаю.
Мая вёсачка стаіць
дзе рачушка ўецца,
і з Сакоў выплывае,
Белаю завецца.
Прыгожы домікі стаят
ад зямлі так нізко,
для жывучых людзей
тут ужо канчына блізко.
Старычкі тут асталісь,
памаленьку адыходзят.
І там нядрэнна ім жывецца,
бо сюды не прыходзят.
Разышліся хто куды —
хто пад Тапчыкалы;
так па меры выглядае —
кілёмэтр нецалы.
Калі глянеш за сябе,
і што казалі людзе —
гэты часы што прайшлі
ўспамінаці будзем.
Жыццё тады не так ішло,
ніхто не сварыўся,
разно жыццё выглядало,
кажды з тым мірыўся.
Марта шла да Грыпы
Грыпа да Параскі —
расчыніці хлеба
каб дала закваскі.
Што ж то за прычына,
чом змянілісь людзі?
Бо пабагацелі —
дабра не будзе.
Брат із братам не гаворыт,
а сястра з сястрою;
не адзін гэта скажа:
чорт вазьмі з парою.
Яда нікому не смакуе,
адзягнуцісь мают,
нічого не робят,
ано ўсё адпачывают.
Што б язык калом не стаў
трэба пляткаваці,
добра печку напаліла
і сядзіт у хаці.
Дзісь раскол пайшоў у вёсцы,
дзеляцца на класы;
нічога таму не пачнеш —
такі насталі часы.
Усё пражытае згану —
таго не апісаці...
Бачу калісьніх дзяўчат
як зачалі спяваці.
Галасісты хлопцы й дзеўкі
тут жа не асталі,
ужэ на могілках ляжат
і тут адпачывалі.
Тут Алёша прыгрываў
на сваёй гармошцы;
як то радасна было
тагды ў нашай вёсцы.
Па вадзе музыка ішла,
апынілась пры школі;
таго часу што прайшоў
не забысь ніколі.
Што астало па тым усім —
толькі успаміны:
як гулялі на масце
хлопцы і дзяўчыны.
Толькі на здымках асталась
морадасць з красатою;
не раз сабе пераглядаю
я і з табою.
Весяліліс і жаніліс,
ужэ і ўмірают,
толькі духоўныя атцы
„Во блажэнном успеніі" спявают.
А што будзе надалей —
мы не будзем знаці;
трэба будзе забірацісь
дзе бацька і маці.
Успаміны па нам астанут
і ацэнят людзе;
якую выставят ацэнку —
знаць з нас ніхто не будзе.**



Ганна Кандрацюк (zorka@niva.bialystok.pl)
www.e-zorka.pl

зорка
для дзяцей і моладзі

# Я не веру, што маладым так цяжка...

Старыя бацькі і дзяды, якія жывуць на вёсцы, часта праводзяць свята адны. Іх дзеці жывуць у горадзе, яны заняты працай, абавязкамі, вядуць бясклапотнае жыццё і ў іх ніколі няма часу. Яны не памятаюць аб сваёй радзімай вёсцы — сваёй айчыне. Быццам бы той пісьменнік, які да старой маці ліст пісаў запозна, — пра гэта мы чыталі на занятках беларускай мовы. Яго ведалі з-за лёгкасці пяра, аднак у яго не было свабоднай хвіліны, каб напісаць слова да беднай, адданай яму жанчыны.

Некаторыя святкуюць супольна з бацькамі, але, на жаль, часцей за ўсё заўважаецца, што тыя „госці з горада” не паказваюць вачэй праз многа гадоў.

Каляды (Раждждаство Хрыстова) гэта такое свята, калі ніхто не павінен быць сам. Кожны з нас мае права святкаваць са сваёй сям’ёй ці блізкімі асобамі. Дзякуючы ім мы адчуваем сябе патрэбнымі людзьмі на зямлі.

Год таму я калядавала ў вёсцы Баброўнікі. Гэта малая вёсачка ля граніцы з Беларуссю. Калі мы заходзілі ў хату і пачыналі спяваць, людзі вельмі цешыліся. Яны любяць, як хтосьці з імі пагаворыць. Многа старэйшых людзей сядзела самотна ў хаце. Яны святкавалі без сваіх дзяцей, якія жывуць у гарадах і не прыехалі, бо яны ўсё заняты працай...



Фота Г.К.

Аляксандра (першая з правага боку) з сябрамі

Я не веру, што маладым так цяжка прыехаць да бацькоў. Думаю, што ім звычайна не хочацца ехаць шмат кіламетраў на вёску, дзе дрэнная дарога, дзе няма інтэрнэту. Ім здаецца, што калі яны толькі пазвоняць бацькам, гэта дастаткова. А тыя на вёсках чакаюць, спадзяюцца цуду, што прыедуць іх дзеці і ўсе разам будуць святкаваць. Усім трэба падумаць, ці ніхто з нашай сям’і не застаўся сам адзін у свята. Калі такая асоба ёсць, абавязкова трэба яе наведаць.

Хто ведае як пасля будзе з намі? Ці не прыйдзецца нам на старасць чакаць і выглядаць сваіх родных, каб разам з імі правесці свята?!

**Аляксандра Яроцкая,**
ІІ клас Гімназіі ў Гарадку

# Праектаванне кахання!

Год таму ў адной мінскай школе загадалі вучням падрыхтаваць «валянцінкі» для ўлад краіны. У цэнтры зацікаўлення, як няцяжка здагадацца, была толькі адна асоба. І хоць у Беларусі вучні даволі паслухмяныя, праект не прынёс спадзяваных вынікаў, наадварот — ён вызваліўся з-пад кантролю і нарабіў многа смеху і жартаў.

Людзіківалігалавоўі паўтаралі: да кахання нікога сілай не прымусіш!

Беларусы гавораць яшчэ, што шчасця і кахання не купіш за грошы.

Праўда, згодна з духам часу, пачуццё праяўляем праз купленую «валянцінку», святочны гаджэт з сэрцайкам, кветкі, салодкія падарункі.



Фота Г.К.

Нашы бабулі і прабабкі гэтыя справы вырашалі з дапамогай сваіх талентаў і мар. Адным з самых папулярных метадаў выклікання пачуццяў была вышыванка. З дапамогай сімвалаў яны заяўлялі, які мадэль кахання іх цікавіць. На здымку з птушкамі, што павернутыя да сябе дзюбкамі, вышытая мадэль кахання, дзе найважнейшыя давер і вернасць. Расліна побач гэта дрэва жыцця, сімвал чалавечага лёсу. На вышыванцы яно прыаздобленае ў кветкі і зоркі. Такая сімволіка мела паспрыяць таму, каб у сямейцы нараджаліся дзеці, адораныя добрым лёсам. Як не цікава, кашуля з вышыванкай, якая патрабавала шмат працы, часу і грошай, паслужыла толькі адзін раз, у час вяселля дзяўчыны, аўтаркі вышыванкі.

Ці магія вышыванкі спрацоўвала?

Гэтую кашулю я пабачыла ў цудоўнай народнай спявачкі. Пані Жэня знайшла яе ў куфэрку бабулі дваццаць гадоў пасля яе смерці. Зараз апранае яе ў час сваіх натхняльных канцэртаў. Верыць, што бабуліна кашуля з вышытымі сімваламі кахання дадае ёй адвагі на сцэне.

**(зор)**

Вераніка КАРДЗЮКЕВІЧ
Гімназія свсв. Кірылы і Мяфодзія ў Беластоку

## Ідзі

Я Цябе кахала, я верыла Табе.
Ты мяне параніў, пакінуў.
Чорнае мора маіх слёз паплыло...
Твае вочы... У іх не было дна...
Цяпер я адна на цёмным дне...
Ідзі і не прыходзь ужо да мяне.
У маім сэрцы я буду кахаць Цябе.
Але ты не заслугоўваеш на мяне.

Уршуля МАРЧУК
Гімназія ў Нараўчы

## * * *

Ты мой голас,
голас у маёй душы.

Ты мая думка,
думка ў маёй галаве.

Ты маё паветра,
паветра з нашай зямлі.

Ты мае пачуцці,
пачуцці проста з майго сэрца.

# УВАГА КОНКУРС! № 7-17

Я не чарапаха-робат,
Але працаваць люблю,
Я не слон, але ў свой хобат
З дывана ўвесь пыл лаўлю.
П......

(У. Мацвеенка)

## Загадкі з роднай хаткі

Разгадайце загадкі, адказы дашліце ў „Зорку” да 26 лютага 2017 г., найлепш па электроннай пошце. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

**Адказ на загадку № 4-17: мяч. Узнагароды, каляровыя алоўкі,выйгралі** Марыюш Разецкі, Магдалена Люнда **з КШ № 1 у Гайнаўцы,** Вікторыя Гаць, Дам’ян Карнілюк **з Бельска-Падляшскага. Віншуем!**

## Казка пра каня, які хацеў папрыгажэць

*(гуцульская казка)*

Адзін конь быў незадаволены сваім лёсам. Наракаў, што гаспадар камечыць яму шэрсць сядлом і прыгнятае яе вупражжу.

Аднойчы вечарам конь падышоў да рэчкі, каб напіцца. Ён пабачыў сябе ў вадзе.

— Вой, які я паскуда! — падумаў пра сябе.

Ён паглядзеў на лебедзя, які грацыёзна плаваў па рацэ і выказаў пажаданне:

— Во, каб у мяне была такая доўгая шыя як у лебедзя, каб паменшала мая галавешка, а ногі зрабіліся тоненькія і даўжэзныя як у мадэлі. І каб, урэшце, мой гаспадар не камечыў маёй шэрсці. Мо лепш, каб ён не здымаў і не насаджваў на маю спіну сядла, каб яно ўвесь час сядзела на хрыбце. Тады з мяне атрымаўся б прыгажун!

Дурныя мары заўсёды здзяйсняюцца.

Прачнуўся раніцай наш конь і адчуў сябе цудоўна адмененым. Захацелася яму наведаць сяброў, пахвастацца сваёй красой. Паляцеў ён на шаўковы мурог, дзе пасвіўся яго табун. А коні як пабачылі яго — давай ходу! Конь здзівіўся:

У Міхалове

— Дык стойце! — закрычаў ён. — Хіба ж не пазнаеце мяне? Я гняды, што ўчора пасвіўся з вамі!

Але сябры не слухалі, толькі задзерлі хвасты і паляцелі…

— Што за прычына, — думае конь, — ці я іх спалохаў? А можа ім стала крыўдна, можа яны адчувалі сябе няўдалымі і непрыгожымі пры мне?!

Прыбеглі коні ў сяло і азірнуліся, ці не бяжыць ім услед якая пачвара.

Наш конь-прыгажун стаяў адзін на пашы і ламаў галаву:

— Што гэта ўсё значыць? Чаму сябры спалохаліся мяне?

На змярканні ён пацягнуўся да рэчкі, каб напіцца. Ён нахіліўся да вады і ўбачыў свой новы імідж. Ды сам злякаўся! З вады глядзела на яго вялікае канішча, з двума гарбамі на тонкіх і доўгіх нагах.

Конь пашкадаваў, што раней наракаў на свой лёс і прыродную прыгажосць, але было позна. Але, як кажуць, няма дыму без агню. З той пары на свеце з'явіліся вярблюды.

**(пераклад з украінскай мовы Ганны Кандрацюк)**

Уршуля МАРЧУК
Гімназія ў Нараўцы

* * *

Выйдзе сонца на неба,
прагоніць хмары
— сумныя думкі.
Будзе шукаць
у мяне дрэнных хвілін.
Не сустрэне ні адной.
Яны адплылі далёка за акіян.
А маё жыццё зусім шчаслівае.

## Вершы Віктара Шведа

### Які сэнс?

— Куды ідзеш Алёша?
— Нясу ў банк грошы.
— Ды будзь жа памяркоўны,
У банку грошай поўна.

Людзям даюць пазыку,
З працэнтам заўжды вялікім
За грошыкі кліентаў
Плацяць паўпрацэнта.

### Не растваралоцца рыбы

Настаўнік хіміі пытаецца
На ўроку дзяцей:
— Якія рэчывы
не раствараюцца
Ніколі ў вадзе?

Азваўся Ясь: — Сказаць магу,
Не памыляюся хіба,
Што ў першую чаргу
Не раствараюцца рыбы.

*Замкі і палацы Беларусі*

## НАШ КАСЦЮШКА СЛАЎНЫ БЫЎ!*

Усё, што калісь было, далей жыве побач з намі. Праўда, часам тое жыццё працягваецца толькі ва ўспамінах, песнях або ў мастацкіх карцінах.

Сёння прадставім будынак, які адрадзіўся як фенікс з попелу. Усё дзякуючы добрай памяці па чалавеку, які стаў героем для палякаў, амерыканцаў і беларусаў. Таксама беларусы Падляшша, як паказваюць гістрычныя крыніцы, у гонар героя масава называлі сыноў: Тадэвуш-Тадэй!

Мова пра Тадэвуша Касцюшку, родам з беларускага Палесся.

Тадэвуш Касцюшка нарадзіўся ў лютым 1746 года. З яго асобай звязаны шляхецкі дворык ва ўрочышчы Мерачоўшчына непадалёк мястэчка Косава. Сціплы, драўляны двор (пад саламянай страхой) быў спалены некалькі разоў. Першая рэканструкцыя адбылася ўжо ў 1857 годзе, дзякуючы намаганням графаў Пуслоўскіх. У будынку быў наладжаны музей славутага земляка. Дом згарэў у гады Вялікай Айчыннай вайны і толькі ўжо ў наш час быў адноўлены на фундаменце старога будынка.

Сёння тут можна ўбачыць інтэр'еры эпохі, калі жыў Касцюшка, прадметы быту, адзенне і зброю — шаблі, муляжы пісталетаў, ядры і кулі, копію сярмягі, у якой ваяваў герой…

У гэтай гісторыі ёсць пэўная паслядоўнасць Ідэі, за якія змагаўся Тадэвуш Касцюшка, часам на пэўны перыяд трапляюць у занядпад, іх нішчаць або паляць агнём. Але яны не паміраюць, заўсёды адраджаюцца, як той фенікс з попелу.

Пра якія ідэі мова?

Гэта свабода і роўнасць сярод народаў свету!

Не менш важная добрая памяць па чалавеку, якая мае моц адраджэння. Доказам тут адноўлены, прыгожы і адначасова сціплы дом Тадэвуша Касцюшкі ў Мерачоўшчыне. **(гак)**

** Пачатак беларускай народнай песні, з часоў Паўстання Тадэвуша Касцюшкі*

## Польска-беларуская крыжаванка № 07-17

Запоўніце клеткі беларускімі словамі. Адказы, з наклееным кантрольным талонам, на працягу трох тыдняў дашліце ў „Зорку". Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку № 3-17:**

Міт, бок, Лада, Мяшок, кошык, харч, код, джып, коні, склад, кок. Меч, кадук, морж, ляшчына, нашы, док, бак, крок, но, каляднік.

Узнагароды, запісныя кніжкі, выйгралі **Вольга Кардаш** з Нарвы, **Вольга Мішчук**, **Аляксандра Куптэль**, **Якуб Авярчук** з Арэшкава, **Агнешка Саўчук** з КШ № 3 у Гайнаўцы, **Магда Люнда**, **Юстына Астапковіч** з КШ № 1 у Гайнаўцы, **Вікторыя Гаць** з КШ з ДНБМ № 3 у Бельску-Падляшскім. Віншуем!

| | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | Rosa | | | | |
| Jesiotr | | Zupa / Ranga | | | | Toast | Papryka | | Sława / Kiedy |
| Schodek / Stóg | | | | | | | | | |
| | Ton | | | | Przecho-dzień | Ewa / Anita | | | |
| | | | Osioł | Marzenie / Liczba | | | | | |
| | Gałąź / Akr | | | | | | | Halo! | |
| | | Sikorka | | | | | | | |
| Klekot / Orzeł | | | | | | | | | |
| | | | | Ślizgawka | | | | | |

І яны стваралі „Ніву”

# Францішак БЕРНІКОВІЧ

**Сярод людзей, якія стваралі „Ніву”, былі Сяргей Кішыцкі і Францішак Берніковіч. Першы быў у „Ніве” штатным графікам на працягу трох гадоў, другі быў актыўным „ніўскім” карэспандэнтам і падпісчыкам тыднёвіка да канца свайго жыцця. Абодва зараз забытыя і варта пра іх згадаць пры нагодзе юбілею „Нівы”. Заслужылі яны на ўдзячную памяць таксама сярод сённяшніх рэдактараў і чытачоў тыднёвіка. Адшукаць іх пасля гадоў, калі былі яны прысутныя на старонках „Нівы”, аказалася няпростай справай. Нават былыя журналісты тыднёвіка не змаглі дапамагчы мне ў кантактах. Прыйшлося шукаць рознымі спосабамі, сярод якіх былі таксама шчасце і выпадковасць.**



Злева: Кастусь Майсеня, цесць Берніковіча, Анастасія Майсеня, жонка Берніковіча Зофія, Берніковіч і дзеці. Сядліска 50-60 гады.

Здаецца, першым зацікавіў мяне Францішак Берніковіч, аўтар арыгінальных артыкулаў у першыя гады існавання „Нівы”, якога Георгій Валкавыцкі назваў „прыязным нам мазурскім віленчуком” (Г. Валкавыцкі, *Віры*, Беласток 1991, с. 86). Артыкулы Ф. Берніковіча адрозніваліся ад іншых інтэлектуальным узроўнем і сваёй думкай. Прозвішча аўтара нічога мне не гаварыла. З „Нівы” вынікала, што жыў ён у Седлісках каля Гіжыцка, што аднойчы пацвердзіў Юры Туронак. У інтэрнэце можна знайсці інфармацыю, што сапраўды быў ён настаўнікам у пачатковай школе ў Седлісках.

Ездзячы цягніком паміж Гданьскам і Беластокам не раз мінала такую станцыю і не раз думала тады пра Францішка Берніковіча. Аднойчы (у 2013 г.) вырашыла пра яго запытаць адну спадарыню, якая села ў цягнік на станцыі Седліска. Аказалася, што быў гэта правільны крок. Спадарыня ведала сына Францішка Берніковіча — Генрыка. Я перадала ёй мой нумар тэлефона з просьбай пазваніць, а спадарожная спадарыня абавязалася яго перадаць далей.

Неўзабаве праз некалькі дзён пазваніў Генрык Берніковіч. Тады я працавала яшчэ на Кафедры беларускай культуры Універсітэта ў Беластоку і мела надзею, што пачну ствараць біяграфічны слоўнік беларусаў у Польшчы ці слоўнік беларускай культуры ў Польшчы. Не ўяўляла, што ён можа быць без Францішка Берніковіча. Так і прадставіла сваё зацікаўленне ім яго сыну. Падчас размовы даведалася, што Францішак Берніковіч памёр 25 жніўня 2003 г. у Гіжыцку і да канца жыцця быў чытачом „Нівы”.

На аснове размоў і э-мейлаў удалося шмат чаго даведацца пра Францішка Берніковіча. Нарадзіўся ён 21 кастрычніка 1919 г. у Варанцах (недалёка Мосара) Дзісненскага павета ў каталіцкай сям'і Альбіна і Мальвіны. Быў найстарэйшым з васьмярых іх дзяцей. Бацькі мелі 10 гектараў зямлі і 1 гектар саду. Да вайны Францішак Берніковіч закончыў чатыры класы польскай школы і працаваў на бацькоўскай гаспадарцы. З уваходам саветаў у 1939 г. паступіў у пяты клас беларускай Няпоўнай сярэдняй школы. У чэрвені 1941 г. закончыў шосты клас.

З уваходам немцаў у чэрвені 1941 г. быў уже свядомым беларусам. На аснове прызыву ўступіў у беларускія вайсковыя фармаванні (Беларуская Краёвая Абарона), якіх заданнем была ахова беларускіх вёсак. Быў сведкам здзекаў Арміі Краёвай над беларусамі. Нягледзячы на сур'ёзную небяспеку, не перайшоў у АК, да канца вайны застаўся беларускім жаўнерам. Ад сваёй службы пакінуў запіскі. У сувязі з надыходам саветаў, з аддзелам беларускага войска падаўся спярша на тэрыторыю паўночнай Італіі (Удынэ). Адтуль праз Чэхію з польскім пашпартам даехаў у Беласток.

Вядома, што пачаў працу настаўнікам на Прусах, у наваколлі Гіжыцка. З 1 снежня 1946 г. да 1952 г. працаваў у школе ў Езёрках, пасля ў Седлісках. Ажаніўся з землячкай Зофіяй Васілёнак, родам з Майсюціна Дзісненскага павета. У 1948 г. нарадзіўся сын Генрык, у 1950 — Аляксандр, а ў 1954 г. — дачка Данута.



50-годдзе шлюбу Зофіі і Францішка Берніковічаў

Францішак Берніковіч закончыў гісторыю на Варшаўскім універсітэце. Магістарскую працу пра Кастуся Каліноўскага напісаў пад кіраўніцтвам праф. Генрыка Самсановіча. Калі заснавалася „Ніва” ў 1956 г., стаў яе падпісчыкам і карэспандэнтам. У першым тэксце „Дастойна ўшанаваць памяць Кастуся Каліноўскага” („Ніва”, № 37, 15.09.1957 г., с. 5) прадставіў свае прапановы наконт гэтага, што „ў сучасны момант ходзяць чуткі аб тым, што Галоўнае праўленне БГКТ выступіла да дзяржаўных устаноў з просьбай пабудавання помніка Кастусю Каліноўскаму”. Прапанаваў стварыць з актыўных дзеячаў БГКТ „камітэт абходу 125-гадавіны народзін і сотай гадавіны з дня смерці Кастуся Каліноўскага” і „змабілізаваць усю беларускую інтэлігенцыю да гэтай справы”. Сярод канкрэтных дзеянняў лічыў патрэбным, між іншым, „пачаць працу над выданнем збору пісьмовай дзейнасці Кастуся Каліноўскага”.

Ф. Берніковіч вяртаўся на старонках „Нівы” да постаці Кастуся Каліноўскага некалькі разоў. З нагоды 120 гадавіны з дня яго нараджэння апублікаваў у „Ніве” (№ 5, 2.02.1958, с. 6) пра яго артыкул „Кастусь Каліноўскі”. Апісаў у ім жыццёвы шлях змагара за беларускую справу на аснове таго, як „у сучасны момант прадстаўляецца праўда” аб ім. Варта прыгадаць, што быў гэта першы „ніўскі” атрыкул пра Кастуся Каліноўскага. У 1959 г. у дыскусійным артыкуле пісаў пра бяздзейнасць Камітэта пабудовы Дома-помніка К. Каліноўскага („Яшчэ раз аб пабудове Дома-помніка К. Каліноўскага”, „Ніва”, № 36, 6.09.1959, с. 7.). У „Навуковым зборніку” (Беласток 1964) змешчаны артыкул магістра Ф. Берніковіча „Праблескі і цені польска-беларускага супрацоўніцтва ў час студзеньскага паўстання” (с. 61-71), у якім падкрэсліў, што „ў развіцці і разгортванні рэвалюцыйнага руху на Беларусі асноўную ролю адыграў Кастусь Каліноўскі. Гэта чалавек, які на працягу свайго кароткага жыцця ўсю сваю энергію аддаў, каб падняць са спячкі беларускі народ і ўлучыць яго ў плынь вызваленчай барацьбы народаў Расіі за іх вольнасць і незалежнасць. Заслугі Кастуся Каліноўскага ў развіцці польска-беларускіх адносін вельмі вялікія. Будучы сам беларусам, чаго доказам з'яўляецца ўся яго жыццёвая дзейнасць, усёй душой быў звязаны з польскімі рэвалюцыянерамі. Для іх існавала супольная ідэалагічная платформа, лозунгам якой было народна-вызваленчае змаганне двух народаў” (с. 71).

Ф. Берніковіч пісаў у „Ніве” таксама пра іншыя падзеі, звязаныя з гісторыяй Беларусі, м.інш. пра 550 гадавіну бітвы пад Грунвальдам, даказваючы, што „бітва пад Грунвальдам — гэта вялікая падзея ў гісторыі не толькі польскага, але і беларускага народа. (...) Гэта супольная барацьба не на жыццё, а на смерць за сваю незалежнасць зрабіла Грунвальд сімвалам польска-беларускай дружбы” („Вялікая гадавіна”, „Ніва”, № 27, 6.07.1958, с. 1).

Упершыню таксама згадаў Ігната Даніловіча, Платона Сасноўскага і Язэпа Ярашэвіча і іх заслугі ў „развіцці беларускай культуры і навукі”, „хоць у сваіх працах яны слаба высвятлялі беларускі пункт гледжання ў сэнсе палітычным” („Уздым нацыянальнай свядомасці беларусаў у XIX стагоддзі”, „Ніва”, № 12, 23.03.1958, с. 3).

Відаць таксама, што Ф. Берніковіч сачыў за гістарычнай літаратурай у БССР, рэкамендуючы яе чытачам „Нівы”, напр. кнігу Генадзя Кісялёва „Сейбіты вечнага” („Кніжка, якую варта прачытаць”, „Ніва”, № 37, 13.09.1964, с. 4).

Па-за гістарычнай тэматыкай Ф. Берніковіч пісаў таксама пра праблемы беларускай асветы і культуры. Як настаўнік і пастаянны чытач „Нівы” перажываў за ўзровень беларускага школьніцтва на Беласточчыне: „Многія з нас, бліжэй не сутыкаючыся з беларускай школай, захапляліся дасягненнямі асветы на роднай мове, хоць чутны былі весткі, што ўзровень навучання ў беларускіх школах з'яўляецца нізкім у параўнанні з узроўнем навучання ў польскіх школах. Мне, настаўніку, пражываючаму за межамі Беластоцкага ваяводства, гэтая справа была вельмі цікавай” („З настаўніцкай нівы. Нашыя водгукі”, „Ніва”, № 46, 17.11.1957, с. 5). Перажываючы за беларускае школьніцтва ў Польшчы пісаў: „Ад нейкага часу на старонках „Нівы” ідуць спрэчкі на тэму арганізацыі беларускіх школ на Беласточчыне. Справа гэта вельмі важная і цікавая. Цікавая таму, што адносіцца да нашых жыццёвых спраў. У залежнасці ад таго, як будзе яна развязана, так будзе развівацца культурнае жыццё беларусаў у Польшчы” („Голас у справах асветы”, „Ніва”, № 6, 9.02.1958, с. 5). Выказваўся за існаванне беларускіх школ і супраць замены іх на польскія з захаваннем толькі беларускай мовы як прадмета. Заклікаў настаўнікаў павышаць свае веды і ўзровень навучання.

Перад выбарамі ў рады нарадовыя пісаў пра ўдзел у іх настаўнікаў, якія, будучы раднымі, маглі б мець уплыў на ўзровень асветы („Каб рады нарадовыя больш клапаціліся справамі асветы”, „Ніва”, № 50, 15.12.1957, с. 5). У „Водгуку на ліст змешчаны ў „Ніве” пад загалоўкам „Дарагая Надзенька” („Ніва”, № 30, 24.07.1960, с. 7) разважаў пра працу настаўніка на вёсцы, якой не трэба лічыць „судовым прыгаворам”, а місіяй дзеля павышэння культурнага жыцця вёскі — настаўнік павінен быць ініцыятарам і арганізатарам „культурных разрывак”.

У артыкуле „Якая мае быць паэзія”, згадваючы маладых беларускіх паэтаў Віктара Шведа, Алеся Барскага, Яшу Бурша, прапанаваў „пісаць сапраўды мастацкія творы, тэматыка якіх будзе поўнасцю адлюстроўваць жыццё беларускага грамадства ў Польшчы” („Ніва”, № 9, 3.03.1963, с. 3).

У 1958 г., калі БГКТ дзейнічала ўжо больш чым два гады, Ф. Берніковіч звярнуў увагу на недахопы ў яго працы: „Можа найбольшай памылкай у працы была адарванасць усёй дзейнасці ад беларускай інтэлігенцыі. Сябры з ГП стараліся павесці працу сваімі ўласнымі сіламі, слаба цікавіліся людзьмі, якія павялі б працу ў сваіх асяроддзях, не патрабуючы затрачваць матэрыяльных сродкаў. Таварыства не змагло на працягу двух з паловай год навязаць цеснай сувязі не толькі з беларускай інтэлігенцыяй, пражываючай за межамі Беласточчыны, але і ў самой Беласточчыне” („Развіццё працы Таварыства — гэта справа ўсіх беларусаў”, „Ніва”, № 41, 12.10.1958, с. 3). Патрабаваў „неабходна шукаць сваіх уласных перспектываў развіцця культурнай і грамадскай дзейнасці”.

Ф. Берніковіч аднатоўваў таксама на старонках „Нівы” праявы беларускага культурнага жыцця на Мазурах. Напісаў справаздачу з канцэртаў „Лявоніхі” ў Гіжыцку, якія адбываліся там 4 і 5 ліпеня 1964 г. („Лявоніха” на Мазурах”, „Ніва”, № 35, 30.08.1964, с. 3).

У захаваных рукапісных запісках знаходзяцца лісты ў „Ніву” з апошніх гадоў жыцця Ф. Берніковіча. 1 ліпеня 2000 г. запісаў ён: „Гутарка чытачоў „Нівы”. У апошнім нумары „Нівы” нум. 26 за 25 чэрвеня 2000 года наш Шаноўны чытач з Віцебска — Спадар Юрась Сціпанаў закранае справу чысціні нашай мовы беларускай на старонках „Нівы”, даказвае, што ў ёй аж роіцца ад паланізмаў, прыводзячы да гэтага доказ. Праўда, паланізмы здараліся, хоць цяпер радзей, ужо не пішацца „пані”, а „спадарыня”. Гэта добра. І яшчэ закранае вельмі важную для нас справу. Адкрыць у „Ніве” новую рубрыку „Палітычны абзор у свеце”, пры тым зроблены аб'ектыўна. Хвала за гэта. Думаю, што Рэдакцыя разгледзіць гэтую справу. І яшчэ выказваецца за ўтрыманне рубрыкі „Беларусь, беларусы”, хоць як даказвае ёсць чытачы, каторые жадалі-б яе зліквідавання. Маё слова ў гэтай справе — Не! Рубрыка гэтая змешчаная на 2 ст. „Нівы” — гэта яе краса! Думаю, што дамагаюцца гэтага не беларусы, а яе рэнегаты, яны хацелі б каб „Нівы” зусім не было. На гэта аднак мы, беларусы, не дазволім!”.

Варта згадаць, што Ф. Берніковіч на беларусаў выхоўваў сваіх дзяцей. Як успамінае яго сын Генрык, з другога класа бацька вучыў яго ў хаце беларускай мове. Падтрымліваў таксама кантакты з беларусамі ў Польшчы і за мяжой — з Юрым Туронкам, Кастусём Майсенем, з Калядкай з Бельска-Падляшскага, з Віталём Кажанам са ЗША і з Міхасём Зуем з Аўстраліі.

*(пра Сяргея Кішыцкага чытайце ў чарговым нумары Нівы)*

**Лена ГЛАГОЎСКАЯ**

*(даклад быў прачытаны ў час юбілею 60-годдзя «Нівы», 26 лістапада 2016 г.)*



# Геранімова

■ Руіны палаца

**Гарымова, так у гады майго дзяцінства называлі ў народзе маёнтак недзе не за гарамі, куды некаторыя маладыя тады людзі падаваліся на працу. А мне неяк не прыходзілася бываць бліжэй яго, бо ж і ўсялякі публічны транспарт калясіў па адлеглых ад яго дарогах. А цяпер то ўжо таго транспарту столькі, што кот наплакаў, але цікавасць да таго неадлеглага месца неяк выштурхнула мяне менавіта туды.**

З Новай Волі жвіроўка, якая паўкілametра да Геранімова — так мясцовасць называецца афіцыйна — далучаецца да асфальтоўкі з гміннага Міхалова. З асфальтоўкі відаць вялікі будынак, мабыць абору, трэць даху якой пакрыта сонечнымі батарэямі. Іншыя будынкі паказваюцца пазней...

Лешак Нос у сваёй манаграфіі Міхалоўскай гміны быў пісаў, што назва мясцовасці выводзіцца ад другога імя Міхала Гераніма Радзівіла, які на зломе XVIII і XIX стагоддзяў быў уласнікам тадышняга маёнтка. Даведнікі падаюць пра яго больш, дадаючы яму яшчэ адно імя — Гедэон. Жыў ён у 1778-1850 гадах, браў удзел у Касцюшкаўскім паўстанні, Напалеонаўскіх войнах ды ў Лістапалаўскім паўстанні. З 20 студзеня да 26 лютага 1831 года быў назначаны галоўнакамандуючым польскага войска, аднак толькі фармальна, бо фактычна гэтым войскам камандаваў тады генерал Хлапіцкі; пасля паўстання Геранім быў сасланы на пяць гадоў у Яраслаўль. Аднак тады не быў ён ужо ўласнікам Геранімова, якое прадаў у 1820 годзе сям'і Дзяконскіх.

Пра камандуючага Лістапалаўскім паўстаннем захавалася няшмат вестак, больш вядомым быў яго бацька, таксама Міхал Геранім; магчыма, што і ён раней быў уласнікам згадванага маёнтка, бо Лешак Нос меркаваў, што маёнтак існаваў ужо з XVII стагоддзя і спярша называўся Новай Воляй; калі яго „ахрысцілі" ў гонар уласніка — невядома. Пра старэйшага Гераніма, які жыў у 1744-1831 гадах, вядома больш. Быў ён апошнім віленскім ваяводам — з 1790 года да трэцяга падзелу Рэчы Паспалітай у 1795 годзе. Даведнік пра Вялікае Княства Літоўскае піша пра яго м.інш.: „У час паўстання 1794 знаходзіўся ў Пецярбургу, не супрацьдзейнічаў аказанню яго ўраднікамі дапамогі паўстанню, выстаўленню рэкрутаў. Пасля адыхоў ад палітычнай дзейнасці. Сабраў у Няборaўскім палацы каштоўную калекцыю медалёў, бібліятэку (уключала прыватную бібліятэку Людовіка XVIII), карцінную галерэю, збор гравюр. Сканцэнтраваў у сваіх руках велізныя зямельныя ўладанні...". Цікавая тут згадка пра французскага караля Людовіка XVIII. Вядома, што пасля рэвалюцыі 1789 года ўцякаў ён, не будучы яшчэ каралём, ад якабінцаў у Расію і ў 1798 годзе начаваў, як я раней тут пісаў, у Новых Пякутах. Цалкам магчыма, што пазней, па дарозе, спыніўся ён і ў Геранімове, і што мог там пакінуць сваю бібліятэку Радзівілам...

Іншыя даведнікі падаюць, што назва Геранімова выводзіцца ад Гераніма Вінцэнта Радзівіла, які жыў у 1759-1786 гадах і быў мінскім старастам; усяго можна даведацца з даведнікаў, і чым больш тых даведнікаў, тым больш можна з іх давeдацца. Было крыху тых Геранімаў Радзівілаў і кожны даследчык можа палічыць любога з іх даўцам назвы маёнтку каля Новай Волі.

У часы Радзівілаў двор у Геранімове быў даволі сціплым гаспадарствам. Новы воблік атрымаў ён у час уладарання Казіміра Дзяконскага, недзе каля 1830 года, калі быў там закладзены парк і пабудаваны раскошны палац. Цягам дзесяцігоддзяў змяняліся ўласнікі, сядзіба маёнтка разбудоўвалася. У 1939 годзе саветы зрабілі там саўгас. У 1943 і 1945 гадах пажары зруйнавалі багаты раней маёнтак.

Пасля вайны каля сямісот гектараў зямлі было раздзелена між сялян, аднак калі пачалася калектывізацыя, тыя сяляне пазракаліся атрыманай зямлі. У 1952 годзе паўстаў там пэгеэр, які існаваў да 1993 года. Зараз маёмасцю былога маёнтка гаспадарыць вонкавыя прыватнікі.

Геаграфічны слоўнік Каралеўства Польскага пра Геранімова згадваў даволі сціпла: „Hironimowo, st. poczt., pow, białostocki gub. grodzieńskiej, przy trakcie z Białegostoku do Wołkowyska i Prużany". Магчыма, што паштовы шлях з Беластока ў Ваўкавыск пралягаў цераз Геранімова і Ялоўку, хаця здаецца, што мог быць ён прасцейшы і карацейшы. А ў Пружаны цераз Нараўку і Белавежу цалкам прасцей. Вось і я пакаласіў па гэтым апошнім, значыць па палове яго, ад Ляўкова ў Беласток. Пра абору, якая ўзяла на свой дах вельмі сучаснае абсталяванне, была згадка раней. Іншыя будынкі былога раскошнага маёнтка выглядаюць больш сумна...



■ Палац на карціне Напалеона Орды

У Геранімове, паводле маёй здагадкі, мог быць французскі кароль у бежанстве Людовік XVIII, хаця гэта толькі мая здагадка. Затое напэўна ў Геранімове быў беларускі мастак Напалеон Орда, які на сваіх карцінах зафіксаваў палац і афіцыну. Афіцына захавалася да нашых дзён, затое ад палаца засталіся руіны. Паводле Лешка Носа знішчылі яго нейкія партызаны ў 1943 годзе. Палац той, як паказвае карціна Напалеона Орды, вельмі нагадваў узнімаючагася да палёту арла, з шырока раскінутымі крыламі і з „кіпцюрамі" ў выглядзе пышнага франтона. На сёння захаваліся толькі рэшткі „махавых пер'яў"...



■ Афіцына на карціне Напалеона Орды



■ Былая афіцына цяпер

На задворках палаца некалькі ставаў. Гісторыкі мясцовасці не згадваюць, ці яны прыроднага паходжання, ці антрапагенныя. Магчыма, што выкапалі іх мясцовыя людзі. Нялёгкая была іх доля, бо ў 1846 годзе збунтаваліся супраць непасільнага прыгнёту прыгону; генерал Казімір Дзяконскі выклікаў дзеля здушэння бунту войска. Памёр ён тры гады пазней, пахаваны ён у межах дворскага комплексу.

Задуманы ім велічны твор ландшафтнага мастацтва сышоў у Лету амаль сто гадоў пасля яго. Крышку пазней, у пэгеэраўскую эпоху, новыя ўладары задумалі чарговую мадыфікацыю тамашняга краявіду, узводзячы ў геркаўскі час двухпавярховыя шэрыя блокі, якія сёння зеўраюць пустымі праёмамі. І хто ведае, ці не разваляцца яны раней чым рэшткі палаца.

❖Тэкст і фота **Аляксандра ВЯРБІЦКАГА**

## БЕЛАРУСКАЯ — самая папулярная сярод моў меншасцей Падляшша

На Падляшшы самай папулярнай мовай меншасцей у школах з'яўляецца беларуская мова. Сярод чатырох моў меншасцей, якія маюць магчымасць вывучаць дзеці ў якасці роднай у Падляшскім ваяводстве, беларускую мову вывучае найбольш вучняў. Нягледзячы на дэмаграфічныя праблемы, колькасць ахвотных вывучаць родную мову застаецца на сталым узроўні.

У мінулым годзе беларускай, украінскай, літоўскай і расійскай мовам вучылася 3909 вучняў, што склала 2,9% ад агульнай колькасці ўсіх вучняў.

— Калі размова ідзе канкрэтна пра беларускую мову, то гэта найбольш папулярная мова нацыянальных меншасцей у нашым ваяводстве, — адзначыла ўпаўнаважаная дырэктара Аддзялення развіцця адукацыі Куратары асветы ў Беластоку Альжбета Камінская. На яе думку, нягледзячы на дэмаграфічны спад колькасці дзяцей, лік вучняў, якія вывучаюць мовы меншасцей, не паніжаецца. Беларускай мове ў Падляшскім ваяводстве вучыцца каля трох тысяч дзяцей, літоўскай — каля шасцісот, далей ідуць украінская і расійская мовы. Апошняй навучаюцца дзеці толькі ў адной падляшскай школе — у Студзянках.

Найбольш дзяцей беларускай мове вучыцца ў Гайнаўцы і Бельску. Як паказваюць падлікі з лютага 2017 года, у Комплексе школ № 3 у Бельску-Падляшскім 469 школьнікаў вучыцца беларускай мове ў пачатковай школе і 213 у гімназіі. Беларускі ліцэй у Бельску налічвае 259 вучняў. Гайнаўская гімназія з беларускай мовай навучання налічвае 136 школьнікаў, у Ліцэі з дадатковым вывучэннем беларускай мовы вучыцца 204 вучні. Альжбета Камінская з куратары ў Беластоку дадае, што беларускай мове навучаецца многа дзяцей у падляшскіх садках. У Дзіцячым садку № 14 у Беластоку 121 дашкольнік удзельнічае ў занятках па беларускай мове.

Найбольш дзяцей вывучаюць беларускую мову ў Гайнаўскім і Бельскім паветах. У Сакольскім павеце толькі ў дзвюх школах (Шудзялава і Бабікі) дзеці могуць вывучаць родную мову.

**Уршуля ШУБЗДА**

## ЗАПРАШЭННЕ



# КАСТУСЬ КАЛІНОЎСКІ і яго суродзічы-сучаснікі

**Беларусы, студэнты-каліноўцы ды земляхі ўшанавалі памяць беларускага нацыянальнага героя Кастуся Каліноўскага на яго радзіме. У Мастаўлянах каля помніка, усталяванага ў гонар арганізатара паўстання 1863-1864 гадоў, паклалі кветкі і запалілі знічы. Сёлета гадавіну з дня нараджэння героя адзначыла не толькі беларуская моладзь з Беластока, але таксама жыхары Падляшша, для якіх Каліноўскі гэта знакавая постаць нашага рэгіёна.**



Усталяванне ў Мастаўлянах помніка ў гонар беларускага змагара паўплывала на свядомасць жыхароў не толькі самой вёскі, але і іншых людзей. Помнік з'яўляецца свайго роду імпульсам дзеля таго, каб глыбей пазнаць гісторыю і лёс асобы, якую ўшаноўваецца менавіта такім спосабам. Помнік быў усталяваны два гады таму, дзякуючы намаганням беларускіх дзеячаў з Падляшша і Гарадоцкай гміны.

Таму цяпер не толькі беларуская моладзь, якая першая пачала адзначаць угодкі з дня нараджэння Каліноўскага, але і іншыя жыхары Падляшша наведваюць Мастаўляны, цэнтральнае месца якіх вылучаецца помнікам.

— Студзеньскае паўстанне важнае, — адзначыў мясцовы ляснік Пятро Бабко. — Я, па шчырасці, сам больш пачаў цікавіцца постаццю Каліноўскага з часу, калі тут усталявалі помнік. Я пад уражаннем — працую тут пятнаццаць гадоў і бачу, што цяпер штораз больш людзей прыязджае ў Мастаўляны дзеля таго, каб ушанаваць памяць паўстанца. Мяне заўсёды цікавіла тая беларуская вёска, а яшчэ нехта згэтуль ваяваў, змагаўся... Супер справа.

Мясцовыя жыхары таксама прывыклі, што каля 2 лютага ў глыбінку прыязджаюць людзі, якія цікавяцца іхнім земляком. Спадар Янка, на якога зямлі калісьці знаходзіўся маёнтак, адмыслова адкінуў снег з дарожкі, якая вядзе на тое ж месца.

— Штогод хтосьці прыязджае, — кажа Янка, жыхар Мастаўлянаў. — Пра Каліноўскага ў нашай вёсцы ведаюць толькі, колькі змаглі пачуць ад найстарэйшых жыхароў. А сам Каліноўскі... залежыць у якіх крыніцах чытаеш.

На бацькаўшчыну Каліноўскага прыязджаюць таксама людзі, якія шукаюць творчага ўздыму. Воля Сямашка супольна з таварыствам «Талака» выдадуць кнігу «Рэквіем паўстанцам 1863 года».

— Вядома, мы прыехалі ў Мастаўляны з нагоды дня нараджэння Каліноўскага, — кажа ініцыятарка кнігі пра беларускіх змагароў Воля Сямашка. — Хочам тут таксама інфармаваць людзей, што можна падтрымаць наш праект. Кніга будзе выдадзеная перш за ўсё ў гонар Каліноўскага, які там названы «Каралём Літвы».

На радзіму Каліноўскага прыехалі таксама студэнты беластоцкай Палітэхнікі, якія з'яўляюцца студэнтамі фонду імя Кастуся Каліноўскага.

— Я цешуся, што маю магчымасць тут пабываць, — адзначыў Андрусь Цянюта. — Тым больш, што паводле мяне мы ў нейкай ступені працягваем думку самага Каліноўскага. Ён адстойваў незалежнасць Беларусі і мы, вядома ж, у іншых абставінах, на іншыя спосабы, але таксама тое стараемся рабіць.

Паколькі адным беларусам хапае вялікая, цікавая гісторыя, якую стварыў Каліноўскі, іншым на ўяўленне пра тую асобу паўплывае вялікі помнік, які стаіць у цэнтральным месцы вёскі Мастаўляны. У рэшце рэшт сёлета як першыя, так і другія ўшанавалі яго памяць.

Тэкст і фота **Уршулі ШУБЗДЫ**



Апошнім часам у Беларусі ўсё часцей праяўляецца мода на беларускасць. Распачатая модай на вышытыя кашулі і прагнутая з'яўленнем знакаў арнаменту прыхільнасць да беларускіх сімвалаў стала ніядрэнна выкарыстоўвацца ў камерцыйных мэтах. З таго пачалі ўзнікаць разнастайныя інтэрнэт-крамы, якія прапануюць сваім віртуальным наведвальнікам тавары, малюнкі на якіх, па сутнасці, з'яўляюцца прагай праслаўлення беларушчыны. Адной з такіх крам ёсць „Дрэва", што напрыканцы мінулага года з'явілася ў інтэрнэце.

„Расце" „Дрэва" па адрасе **www.drevashop.by** і мае даволі добра аформлены выгляд як інтэрнэт-пляцоўкі для гандлю. Яе галоўная старонка адразу прапаноўвае нам купіць цішотку з надпісам „Беларусь перадусім". Менавіта фотаздымак тавару кідаецца ў вочы, а не назва сайта ці выйсці на разнастайныя рубрыкі, якія знаходзяцца ўверсе цэлага выяўлення.

Калі далей вывучаць галоўную старонку, то можна даведацца, хто менавіта адчыніў інтэрнэт-краму. Уніізе размешчана падрабязная інфармацыя пра індывідуальнага прадпрымальніка Яўгена Казлова, які, праўдападобна, і з'яўляецца ўладальнікам „Дрэва".

„#dreva — гэта малады беларускі патрыятычны брэнд. Мы робім і прадаем якаснае адзенне (у краме можна набыць майкі з Пагоняй, світшоты, швэдары, цішоткі), а таксама аксесуары (сонечныя акуляры, драўляныя сонечныя акуляры, гаманцы, манетніцы, кепкі, чахлы і інш.). Наш сімвал — элемент беларускага арнаменту „лапа на дванаццаць расто". Ён пазначае квітнеючую зямлю, парасткі, ніву. Мы ўпэўнены, што наш родны край павінен квітнець, а ўсё дзякуючы лепшым людзям — магутным, як дубы, хлопцам, найпрыгажэйшым у свеце дзяўчатам, сівым (і не вельмі) матулям і татам. Усё, што мы робім — гэта для вас, даражэнькія беларусы, ліцвіны і астатнія спачуваючыя :-)", — прэзентуецца крама на старонцы „Пра нас".

Што ж тычыцца напоўненасці інтэрнэт-крамы таварамі, то, згодна рубрыкі „Крама", пакуль шырокага асартыменту там не назіраецца. Патэнцыяльны пакупнік можа выбіраць паміж адной цішоткай, аднаго світшота і аднаго партманэ. Наўрад ці такі, мякка кажучы, невялікі выбар прыносіць вялікую грашовую карысць прадпрымальніку, які адчыніў краму, не надта клапоцячыся аб колькасці тавару.

Рубрыка „Навіны" пакуль абсалютна пустая. Для сайта, які арыентаваны на гандаль і, адпаведна, на рэкламу свайго тавару, такая пустата сведчыць, па меншай меры, аб неразуменні яго ўладальнікаў важнасці заяўлення аб сабе і сваёй справе. Здаецца, што першым і найгалоўнейшым паведамленнем, звязаным з даным сайтам, мусіла быць інфармацыя пра адкрыццё „Дрэва" ў інтэрнэце.

Нягледзячы на відавочную недапрацаванасць інтэрнэт-крамы, па ўсім відаць, што яе ўладальнік спадзяецца, што пакупнікі на яго тавар знойдуцца. Аб гэтым сведчыць рубрыка „Аплата і дастаўка", дзе змешчана інфармацыя пра спосабы аплаты ўпадабанай рэчы і шляхі яе дастаўкі. „Інтэрнэт-крама drevashop.by ажыццяўляе дастаўку кур'ерам па горадзе Мінску (у дзень афармлення замовы альбо па дамоўленасці з пакупніком) і з дапамогай Белпошты (3-7 дзён — па Беларусі, астатнія тэрміны залежаць ад краіны)", — гаворыцца там.

**Уладзімір ЛАПЦЭВІЧ**

## Дата з Календара

### Паўстанец, святар, беларускі дзеяч



# 125 гадоў з дня нараджэння Антона Сокал-Кутылоўскага

Беларускі вайсковы і грамадскі дзеяч, удзельнік Слуцкага збройнага чыну, праваслаўны святар Антон Сокал-Кутылоўскі нарадзіўся 7 лютага 1892 г. на хутары Красная Горка ў Пінскім павеце. Паходзіў з сям'і беларускага шляхціча Андрэя Сокала-Кутылоўскага, якая жыла на хутары Перавалокі-Дарагішча (пазней Красная Горка), на левым беразе ракі Лань недалёка ад вёскі Чудзін (сёння Ганцавіцкі раён). У 1910 г. скончыў настаўніцкую семінарыю ў Панявежы. Працаваў настаўнікам на землях сучаснай Літвы. З 1913 г. навучаўся ў Петраградзе на політэхнічных курсах, дзе атрымаў спецыяльнасць "тэхнік сельскага вогнестойкага будаўніцтва". Пасля скончыў геаграфічны факультэт Пецярбургскага ўніверсітэта. У 1915 г. прызваны ў расейскую армію. Пасля Казанскай вайсковае вучэльні накіраваны на фронт. Удзельнічаў у баях пад Вільняй і ў Галіцыі, атрымаў чын капітана. Узнагароджаны Георгіеўскім крыжам.

Пасля Лютаўскай рэвалюцыі 1917 г. жыў на сваім хутары. У жніўні 1918 г. накіраваўся ў войска генерала Дзянікіна ў Растоў-на-Доне, ваяваў у ягоных частках. Пасля ізноў вярнуўся дахаты. Прызваны ў Чырвоную Армію ў Слуцку, адкуль праз 2 месяцы збег. У красавіку 1919 г. накіраваўся ў Эстонію ў Пскоўскую белую армію Юдзеніча. Камандаваў ротай пад Петраградам. Пасля паразы Юдзеніча жыў у Эстоніі без працы і грошай. Улетку 1920 г. прыехаў у Гарадзею, дзе жыла жонка.

Удзельнічаў у Слуцкім збройным чыне. Камандаваў 2-ім батальёнам у 1-ым Слуцкім палку, быў камандзірам 1-й Слуцкае брыгады з наданнем яму «часова дыктатарскіх паўнамоцтваў». Пасля ліквідацыі збройнага чыну перайшоў разам з жаўнерамі савецка-польскую мяжу і да траўня 1921 г. быў у лагеры інтэрнаваных. Захоўваў архіў Слуцкай брыгады. Пасля перавёз яго ў Вільню і перадаў Браніславу Тарашкевічу. Таксама зберагаў Сцяг 1-га Слуцкага палка. Гэты сцяг у Сокал-Кутылоўскага канфіскавала польская паліцыя ў 1931 г. у часператрусу.

У 1921 г. епіскапам Панцеляймонам (Ражноўскім) быў рукапаложаны ў сан праваслаўнага святара. У міжваенны час працаваў у парафіях Навагрудскага і Слонімскага паветаў (вёска Вострава), настаўнічаў. Выказваўся за беларускую мову ў набажэнствах. Спрычыніўся да пабудовы храма ў мястэчку Лыскава. Супрацоўнічаў з Часовай беларускай радай, якая стаяла на антыкамуністычных пазіцыях. Пасля 1939 г. спыніў святарскае служэнне і працаваў тэхнікам на будоўлі ў Баранавічах. Арыштаваны НКВД у чэрвені 1941 г., сядзеў у камеры смяротнікаў. Пасля нападу немцаў на СССР здолеў уцячы з падпаленай турмы. Жонка і дзеці былі высланыя раней з Беларусі. Пры немцах працаваў у Баранавічах у гарадской управе, з кастрычніка 1941 г. да лета 1944 г. быў інспектарам беларускіх школ у Ганцавічах, кіраваў там самапомаччу. Удзельнік II Усебеларускага кангрэса. Пасля з'ехаў у Прагу, затым — Нямеччыну. Выкладаў у школе афіцэраў БКА. Разам з дывізіяй «Беларусь» на заходнім фронце здаўся амерыканцам. 30 красавіка 1945 г. арыштаваны савецкай контрвыведкай, вывезены ў СССР. Два з паловай гады быў у Паўночнапячэрскім канцлагеры, пазней засуджаны яшчэ да 25 гадоў. Амніставаны ў 1957 г. Нейкі час жыў у стрыечнай сястры ў Ганцавічах пад наглядам спецслужбаў. Выехаў на сталае жыхарства ў Шчэцін, дзе жыла дачка. Памёр 7 сакавіка 1983 г., пахаваны на Цэнтральных шчэцінскіх могілках. Пакінуў успаміны пра Слуцкае паўстанне.

Падрыхтаваў **Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ**

# Мастакі намалявалі зіму ў Нараўцы





Ад 23 студзеня да 4 лютага гэтага года ў Нараўцы Гайнаўскага павета айчынныя і замежныя мастакі малявалі зіму. Удзельнічалі ў пленэры дванаццаць жывапісцаў, у тым ліку тры асобы з Беларусі і дзве з Літвы: Віктар Кабац, Данель Грамацкі, Валентас Варнас, Рэбэка Брудэр, Святлана Рыжыкова, Іна Дзенішык, Эдвард Гарстоў, Мая Зузанская, Кшыштаф Тшаска, Павел Карпюк, Альжбета Вольграм і Юрка Должык. Кіраўніком XVI Міжнароднага мастацкага пленэру быў мастак Данель Грамацкі з Гайнаўкі. Пра тое, каб мастакі маглі смачна есці ды пра ўмовы для добрага адпачынку пасля заняткаў і пра шматлікія арганізацыйныя справы паклапацілася сімпатычная і сардэчная Анна Юргелянец з Беластока, удава па памерлым беластоцкім мастаку. Яна рабіла ўсе неабходныя пакупкі і ездзіла ў крамы ў Нараўцы і ў Гайнаўцы на сваім аўтамабілі.

Некаторыя мастакі былі ўжо тут — у Нараўцы, у Семяноўцы і ў Старым Ляўкове — у папярэднія гады вясною, летам і восенню і палюбілі чароўныя ваколіцы Белавежскай пушчы, завілістую напаўдзікую раку Нараўку. Захацелі яны ўвекавечыць таксама непаўторную архітэктуру тутэйшых старых, але добра захаваных драўляных дамоў і іншых будынкаў з бярвенняў. Такія прыгожыя мясціны, якія ёсць у Нараўчанскай гміне, ужо цяпер рэдка дзе выступаюць у нашай краіне. Тут нескажоная прырода, чыстае паветра і вада. Адзін жывапісец з Кракава з'ехаў на пастаяннае жыхарства ў Альхоўку і тут малюе. Падчас адных зімніх канікул у школе ён вучыў маляваць дзяцей і моладзь з Альхоўкі і з Семяноўкі. І было шмат ахвотных. Дзеці з Семяноўкі мелі нагоду пабыць у сваіх бабуль і дзядуляў у Альхоўцы.



Карціны намаляваныя мастакамі і мастачкамі рознымі пластычнымі тэхнікамі падчас сёлетняга зімняга пленэру можна было агледзець 3 лютага гэтага года на часовай выстаўцы ў Гмінным асяродку культуры ў Нараўцы. Экспазіцыю саставілялі 52 цікавыя карціны (некаторыя з іх былі яшчэ незакончаныя), у тым ліку шмат пейзажных, на якіх, а як жа, вельмі прыгожыя захапляльныя нараўчанскія зімнія краявіды.

На вернісаж і сустрэчу з мастакамі прыйшлі жыхары перш-наперш Нараўкі, але і прыехалі хто змог з Новага Ляўкова, з Лешукоў і з Плянты. Быў ніжэйпадпісаны карэспандэнт «Нівы» і галоўны рэдактар каляровага часопіса «Над Нараўкай» Ядвіга Карпюк. Пра ўдалыя мастацкія пленэры ў Нараўчанскай гміне ды пра іх удзельнікаў распавялі войт Мікалай Павільч і мастак Данель Грамацкі. Пасля афіцыйнай часткі мерапрыемства свае здымкі з розных маляўнічых куткоў Нараўчанскай гміны паказаў фатограф Кшыштаф Ольшак. І было запрашэнне ўсіх прысутных на каву і гарбату ды салодкае піражнае.

Поўная выстава «зімніх» карцін неўзабаве будзе адкрыта ў нараўчанскай Галерэі імя Тамары Саланевіч. Тады можна будзе яшчэ раз сустрэцца з жывапісцамі і пазнаёміцца з іх працамі.

Тэкст і фота **Янкі Целушэцкага**

# Такая вось праўда

Палітыкі «Добрай змены» (Маравецкі, Кавальчык, Говін і Абрамовіч) разважалі аб паніжэнні складчыны для прадпрымальнікаў. Праз год галасілі аб аднамерным падатку, квоце вольнай ад падатку, аб ільготах. А які таго вынік? Паслядоўнасць пустаслоўнай балбатні (са скрупулёзнымі падрабязнасцямі) выявіў ЗУС на тыдзень перад першым пераводам складчыны на банкавы рахунак. Сёлета прадпрымальнік, які займаецца гаспадарчай дзейнасцю на ўласны рахунак, абавязаны заплаціць каля 1200 зл. месячнай страховачнай складчыны, у гэтым ліку: аздараўляльнай складчыны 297,28 зл. (у мінулым годзе 288 зл.), сацыяльнага страхавання 812,61 зл. (раней 772,96 зл.). Павысілася складчына на фонд працы з 59 зл. на 62,67 зл. (такую стаўку плаціць частка «самазанятых» прадпрымальнікаў). У агульным падліку складае гэта суму 1172,56 зл. Прыбаўка 50 зл. месячнай складчыны здавалася б невялікай, але гаворка ідзе не аб грошах, але аб прынцыпах. Навошта затым было марочыць людзям мазгі, наводзіць туман на вочы?

**(ус)**

## Адгаданка Адгаданка Адгаданка

**Шыфраграма**

Літары адгаданых слоў, перанесеныя згодна з іх парадкавымі нумарамі ў клеткі роспісу, складуць рашэнне — беларускую пагаворку.

1. напрыклад, Вязынка, Бандары або Пашкоўшчына = 16 _ 15 _ 12 _ 7 _ 8 _;
2. афіцыйнае паведамленне ў вуснай або пісьмовай форме = 1 _ 11 _ 5 _ 13 _ 14 _;
3. японская разнавіднасць будызму ў ... мезенцы = 9 _ 21 _ 10 _;
4. аўтаномны рэгіён Расіі з Сыктыўкарам = 6 _ 17 _ 3 _ 2 _;
5. сумесь тлушчу з лекавымі сродкамі = 20 _ 4 _ 18 _ 19 _.

**(ш)**

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | 1 | 2 | 3 | 4 |
| 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 |
| | | | 12 | 13 | 14 | 15 |
| | 16 | 17 | 18 | 19 | 20 | 21 |

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на адгаданку з 4 нумара**

Беласток, галушка, сакавік, міліграм, Прыпяць, паніч, Валдай.

Рашэнне: **Лес шуміць — чакай адлігі**.

Кніжныя ўзнагароды высылаем **Анне Дэм'янюк** з Бельска-Падляшскага і **Лявону Федаруку** з Рыбал.

Ніва
ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ
PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

**Выдавец**: Праграмная рада тыднёвіка „Ніва”.
**Старшыня**: Яўген Вапа.
**Адрас рэдакцыі:** 15-959 Białystok 2, ul. Zamenhofa 27, skr. poczt. 84.
**Тэл./факс:** (+48 85) 743 50 22.
**Internet**: *http://niva.bialystok.pl/*
**E-mail**: *redakcja@niva.bialystok.pl*
***Zrealizowano dzięki dotacji Ministra Spraw Wewnętrznych i Administracji.***
**Галоўны рэдактар:** Яўген Вапа.
**Намеснік гал. рэдактара:** Віталь Луба.
**Тэхнічны рэдактар:** Адам Паўлоўскі.
**Рэдактар „Зоркі”:** Ганна Кандрацюк-Свярубская.
**Публіцысты:** Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Уршуля Шубзда, Міраслава Лукша, Іаанна Чабан, Аляксей Мароз, Віктар Сазонаў, Уладзімір Хільмановіч, Юрка Ляшчынскі, Янка Целушэцкі.
**Канцылярыя:** Галіна Рамашка.
**Друкарня**: „Orthdruk”, Białystok.
Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.
**Sprzedaż egzemplarzową „Niwy” prowadzą:** kioski i punkty sprzedaży „RUCH” na terenie woj. podlaskiego oraz w Warszawie (odbiór należy zgłosić u sprzedawcy wybranego kiosku lub punktu sprzedaży „RUCH”), placówki pocztowe i listonosze w woj. podlaskim, kioski i punkty sprzedaży „KOLPORTERA” oraz „GARMOND PRESS”, siedziba redakcji „Niwy”.
**Prenumerata krajowa**
„POCZTA POLSKA”, „KOLPORTER”, „RUCH” — kwartalna 32,50 zł., półroczna 65 zł., roczna 130 zł.
Redakcja „Niwy” — kwartalna 60 zł., półroczna 120 zł., roczna 240 zł.
Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie województwa podlaskiego oraz oddziały „KOLPORTER” na terenie całego kraju.
Zamówienia na prenumeratę realizowaną przez RUCH S.A. można składać bezpośrednio na stronie www.prenumerata.ruch.com.pl
Ewentualne pytania prosimy kierować na adres e-mail: prenumerata@ruch.com.pl lub kontaktując się z Telefonicznym Biurem Obsługi Klienta pod numerem: 801 800 803 lub 22 717 59 59 – czynne w godzinach 7[00] – 18[00].

**Wpłaty na wysyłkę z redakcji przyjmuje:**
**Rada Programowa Tygodnika „Niwa”,**
BANK PEKAO S.A. O/Białystok
38 1240 5211 1111 0000 4929 0945

**Nakład:** 1 300 egz.

# 12.02 — 18.02

**(22.03. — 20.04.)** Будзеш энергічны і ахвотны да дзеяння. Старайся каб усё, што робіш, прынесла карысці не толькі табе. Наладзіш супрацоўніцтва з уплывовымі людзьмі. Запрасі на сустрэчу асобу, за якой спрыянне стараешся здаўна. Дома шмат мітусні, замяшання; плануй. Гарантаваная прыхільнасць зорак у фінансах і магчымасцях. Праекты дойдуць да плённага фіналу. Добра прапацей на фізкультуры.

**(21.04. — 21.05.)** Не ператаміся! Рабі тое, што нясе прыемнасць. Сустракайся, але не раскашэльвайся. Пераглядзь пачуццёвыя станы. Дома спакайней, але прыйдзецца спачатку пагарачыцца на сямейнай сустрэчы. На працы крок за крокам, але не адмаўляйся ад рэалізацыі праектаў. Добра было б падвучыцца, асабліва ў тэхніцы. Не саромейся пазычыць, неўзабаве будзеш мець з чаго аддаць. Падбай аб выгодныя, някоўзкія боты.

**(22.05. — 22.06.)** Энергія, удачы. Адкрытая дарога да рэалізацыі творчых планаў. Дома інвестуй у добрую прыладу. Не сядзі ў хаце, асабліва 14-16.02. можаш выбрацца ў цікавае падарожжа — едзь, каб пасля не шкадаваць. Добра платная праца ляжыць проста на вуліцы (вышлі Сі-Ві, стартуй у конкурсе, падай заяву на фінансаванне); можа, штосьці выйграеш? Для здароўя пацікаўся навінкамі.

**(23.06. — 23.07.)** Будуць змены. Нагоды для паправак вынікаў былых рашэнняў. Толькі не дзьміся і не абражайся. Паглыбленне кантактаў. Самотны Рак: не чакай князя ці казачнай князёўны, глядзі сэрцам. Да дому прыйдуць добрыя весткі. На працы не ўключайся ў інтрыгі, хтосьці схоча цябе выкарыстаць. Пазбягай раптоўных змен тэмпературы.

**(24.07. — 23.08.)** 12-16.02. разлічвай на падтрымку і добрую параду. Будуць нагоды для радасці, задавальнення, гонару. У пачуццях карусель. Хочаш здабыць чыёсьці сэрца? Пазмагайся! А можа ўжо не трэба будзе старацца — хтосьці здаўна табою цікавіцца, а ты не бачыш! На рабоце нічога не адкладвай. Калі маеш прапанову іншай — хутка бяры, пра дэталі дагаворышся. Да 18.02. шэф глядзіць на цябе прыхільна. Прадстаў свае заслугі і задумы, пагавары пра павышэнне. 12-14.02. паявяцца дадатковыя грошы; зайграй!

**(24.08. — 23.09.)** Афармляй адкладзенае, упарадкоўвай справы. Памогуць табе. У пачуццях няма чаго вяртацца да старога, будуць новыя нагоды і суцехі. Сярод сяброў шукай такіх, з якімі цябе шмат што спалучае. На працы Дзевы з трэцяй дэкады няхай пільнуюцца, будзе асоба, якая схоча падкапаць тваю пазіцыю. Пільнуйся таксама пры грашах. Не пускай у фейсбук здымкаў з імпрэз. Вельмі дбай аб сваё здароўе, не хадзі без шапкі.

**(24.09. — 23.10.)** Настрой баявіты, але канфлікты будуць палагоджаны. Чакай сваіх шанцаў. Цікавыя, творчыя задумы. Калі разлічваеш на штосьці больш чым кароткае знаёмства, з ініцыятывай выходзь 12-16.02. Але пільнуйся — хтосьці можа гэта ўспрыняць не так як хочаш. Твае сваякі міла цябе здзівяць 12-14.02. Будзь сціплым на працы і не давадзь да злосці супрацоўнікаў; лепш мець іх на сваім баку. Дыхай араматамі рамонку, ліпы, мяты.

**(24.10. — 22.11.)** Не паддавайся сумненням і турботам! Неўзабаве засвеціць сонейка! 13-15.02. зразумееш матывы чыіхсьці паводзін. Не праваронь цікавых і карысных прапаноў. Калі будуць цябе крытыкаваць і нават прыніжаць, адпусці, крыху адчакай — будзеш цяпер мець ахову зорак і бяспеку. Прыдасца прыязная ўсмешка. Усе размовы, таксама кваліфікацыйныя, пойдуць па тваёй думцы. Інвестыцыя карысная. Неўзабаве будуць немалыя грошы! Крыху боляў з-за стрэсу, сухая скура.

**(23.11. — 22.12.)** Твае мары будуць здзяйсняцца. Будуць такія, што цябе падмацуюць і развесяляць. Будзеш актыўны і цікавы новага. Добрыя лады і папулярнасць, асабліва ў самотных Стральцоў, якія могуць знайсці свой ідэал. Стралец з III дэкады можа моцна пайсці ўверх! Можа знайсці ідэальную працу ці падзарабіць. Пачытай крыху аб эканоміі, добра заінвестуеш. Папытайся пра навінкі ў лячэнні.

**(23.12. — 20.01.)** 12-16.02. будуць нагоды для вельмі прыбытковага інвеставання грошай. 18.02. адчуеш палёгку і скінеш з плячэй цяжар турбот. Не стаўся да нікога і нічога адмоўна. У пачуццях думай толькі пра будучыню, а шыкуецца яна для цябе каляровай. Памяркоўна праходзь побач крамных паліц. 18.02. можаш закахацца!

**(21.01. — 19.02.)** 12-14.02. чакае цябе слава, папулярнасць ці важная пасада. Энергія, падтрымка кіраўніцтва, новыя планы. Больш працы, але аплаціцца — 12-16. шыкуецца табе месца на подыуме! 14-16.02. пазбудзешся сумненняў і будзеш ведаць што рабіць. Ажыўленне ў кампаніі, палымяны раман. Мноства атракцыёнаў. Памаладзееш унутры і звонку!

**(20.02. — 21.03.)** Лёс табе спрыяе, не праваронь нагод! Запал на працы прынясе добрыя вынікі. Будзе вялікі тэмп на рабоце, але спрыяць табе будуць акалічнасці і людзі. Прымі ўдзел у нейкім новым праекце ці конкурсе. Трымай вушы і вочы адкрытымі. Упарадкоўвай справы, канчай незавершанае. Рассакрэціш таямніцы і загадкі. Не зрабі нейкага глупства, бо можаш добра не разабрацца ў нейкай сітуацыі. Схадзі на масаж.

**Агата АРЛЯНСКАЯ**

# Дваццаць самых папулярных

## беларускіх поп-дыска гуртоў Беласточчыны

**ДУБІНЫ**

Менавіта ўсё пачалося з «Дубіноў», якія 30 гадоў таму назад, у 1986 годзе, заснаваў Пётр Скепка, родам з вёскі Дубіны пад Гайнаўкай. «Дубіны» — першы беларускі гурт, які апрацаваў вядомыя народныя беларускія песні ў сучасных аранжыроўках у стылістыцы фольк-рок. Гэта адзіная групы з Беласточчыны, якая зайграла канцэртную трасу па ЗША і Канадзе і першая, якая ў студыі запісала свой музычны матэрыял. Іх касеты — хаця без ведама самога гурта — былі выдадзены і трапілі пад стрэхі кожнага беларуса на Беласточчыне.

**ГРАМАДА**

У пачатку 1990-х гадоў на Падляшша трапілі касеты вядомага беларускага гурта «Грамада», які заснавалі браты Шэметы на Беларусі. Адзін з братоў — Генадзь Шэмет — вядомы беларускі кампазітар з вышэйшай музычнай адукацыяй — пераехаў з сям'ёю жыць у Нарву на Падляшшы. Тут таксама ў палове 1990-х гг. пад шыльдай «Грамады» выпусціў два альбомы рэміксаў сваіх старых песень, а таксама выдаў новыя песні. У 1998 годзе выдаў таксама свой сольны альбом на вершы беларускіх паэтаў (м.інш. на словы Аркадзя Лэўшука). Генадзь Шэмет супрацоўнічаў таксама з гуртом «Лідар». Зараз рэактывуваў «Грамаду» ў новым складзе ды іграе канцэрты па Падляшшы.

**МАЛАНКА**

Беларуская фольк-група, заснаваная ў 1990 годзе ў Бельску-Падляшскім. Мастацкі кіраўнік — Сяргей Лукашук — былы, шматгадовы дырэктар Бельскага дома культуры. «Маланка» сыграла многа канцэртаў у Польшчы і за мяжою, у тым ліку і ў Беларусі.

**TRANSFORMATION**

Хаця гэта не надта вядомая група, таксама як «Дубіны» igralі на жывых інструментах — гітары, ударных і клавішных. У 1992 годзе ў студыі запісалі альбом «Дваём с табой». Толькі загаловачная песня была на рускай мове, а астатнія — беларускія. Да гэтай пары захапляюся сола на гітары ў выкананні Юрыя Краўчука ў песнях «Беларусачка», «Колькі ў небе зор» ці «Толькі з табою». Шкада, што гурт «Transformation» пасля выхаду касеты распусціўся.

**REMIX**

Найстарэйшы беларускі гурт з Бельска-Падляшскага, заснаваны ў 1991 годзе братамі Карнілюкамі і Янам Балестам. На беларускай мове выпусцілі толькі адзін альбом «Piosenki białoruskie». Мне асабліва падабалася іх выкананне песні «Мой родны горад» на словы вядомага беларускага паэта Уладзіміра Някляева. Адзіная іх аўтарская песня на гэтым альбоме гэта «Цёшча».

**РЭАЛЬ**

Гурт «Рэаль», які паўстаў на пачатку 1990-х гадоў, заснавалі браты Кавальскія родам з вёскі Крывец каля Нарвы. Іх песні былі вельмі папулярнымі ў 90-х гадах. У 1996 годзе гурт «Рэаль» змяніў назву на «Лідар».

**ЛІДАР**

У 2001 годзе «Лідар» выдаў альбом «Вёсачка». Аднайменная песня стала вельмі вядомым хітом. У 2009 годзе «Лідар» выпусціў чарговы альбом «Бела каліна», зайграны на жывых інструментах.




**АС**

Таксама ў 1992 годзе паўстаў вядомы беларускі гурт «Ас», заснавальнікамі якога былі Славамір Трафімюк і Андрэй Садоўскі. Пасля да іх далучыў Яраслаў Баравік. Два гады пасля заснавання «Ас» выпусціў касету «Выйду на вуліцу», якая не здабыла асаблівай папулярнасці. Наступная іх касета з 1995 года «Едуць гарадскія» прынесла гурту «Ас» вялікую папулярнасць. Можа таму, што большасць песень на гэтым альбоме былі напісаны Славамірам Трафімюком. Пасля альбома «Едуць гарадскія» гурт «Ас» стаў самым папулярным беларускім калектывам Беласточчыны. Зараз гурт працуе над наступным альбомам, а іх кружэлка з 2012 года «Ты ляці, мая душа» — самы папулярны альбом у апошнім часе.

**ПРЫМАКІ**

Самы папулярны беларускі гурт з Беласточчыны менавіта ў Беларусі. У мінулым годзе святкаваў сваё 20-годдзе творчай працы. Іх першы альбом «Зорка ясная» з 1996 года, а апошні — «Ты думай думай» з 2014 года. Вакаліст і мастацкі кіраўнік «Прымакоў» Юрка Астапчук — заснавальнік двух беларускіх фестываляў «Сяброўская бяседа» ў Гарадку і «Прымацкая бяседа» ў Міхалове.

**САКРЭТ**

Пасля распаду польскай групы «Sonet» басіст гэтай групы Славамір Лукша стварыў беларускую групу «Сакрэт», якая ў 1998 годзе выдала сваю першую беларускую касету «Хлопцы-рыбалоўцы». У 2004 годзе да калектыву «Сакрэт» далучыліся дзеці Славаміра Лукшы — дачка Юліта і сын Адрыян.

**ХЛОПЦЫ-РЫБАЛОЎЦЫ**

Цікавая фальклорная група з Рыбалаў, якой заснавальнікам у 1996 годзе быў Ян Бурнос — дырыжор і мастацкі кіраўнік гэтага калектыву. Група выпусціла тры касеты. Самае цікавае, што першая касета была аўтарскай, а песні напісалі сябры калектыву. Пасля «Хлопцы-рыбалоўцы» запісалі касету з калядкамі. У 2000 годзе выдалі апошнюю касету, на якой былі дзве песні на словы паэтэсы Вольгі Анацік з вёскі Ягуштова каля Бельска-Падляшскага. Усе іх альбомы былі запісаны ў студыі «Рэмбрант» Радыё Беласток, а спонсарам усіх касет была фірма «Agro Drób» з Рыбалаў.

**CAPRI**

У сваёй калекцыі маю адзіную беларускую касету гурту «Capri» з Беластока «Мы зайграем-заспяваем», выдадзеную ў 1999 годзе. Нічога не ведаю пра гэты гурт, хаця памятаю, як у 1998 годзе ігралі беларускі фэст у маёй вёсцы Маліннікі. Беларускія песні ў іх выкананні даволі цікава апрацаваныя.

**CASANOVA**

Гурт вядомы перш за ўсё з польскай плыні музыкі дыска-пола. У 2000 годзе выпусціў дзве цікавыя беларускія касеты «Дудка беларуская» (загаловачная песня на словы класіка беларускай паэзіі Францішка Багушэвіча) і «Białoruskie Hity Vol. 2». Лідар і вакаліст групы «Casanova» — Януш Усціновіч, даўні басіст групы «Transformation».

**CONTRA**

У 2001 годзе сужонства Міраслаў і Кацярына Кшыштопы стварала гурт «Contra» і выпусціла файную беларускую касету «Саперніца». Гэты альбом прамавала Беларускае Радыё Рацыя. Міраслаў Кшыштопа — вядомы як лідар польскай групы «Imperium».

**ЗОРКА**

Феномен гэтай групы пачаўся ў 2005 годзе пасля выхаду іх другога альбома «Давай давай». Аднак не трэба забываць пра іх беларускі альбом «Твае вочы», выдадзены ў 2004 годзе. Папулярнасць групе «Зорка» прынеслі, на маю думку, модныя на гэты час аранжыроўкі ў стылі *dance*, якія рабіў тады вядомы беластоцкі аранжыроўшчык і прадзюсер Андрэй Ёрш. У 2010 годзе «Зорка» распалася, а два гады таму аднавілася. Са старога складу «Зоркі» застаўся толькі вакаліст Ян Карнілюк. Зараз на YouTube ёсць іх найнавейшы кліп на вядомую беларускую народную песню «Чараўніца».

**MIRAGE**

Гурт «Mirage» з Бельска-Падляшскага заснаваны ў 1990 годзе братамі Янушам і Андрэем Канаплямі. Дарэчы, браты Каноплі — абітурыенты Бельскага белліцэя, а Януш — выпускнік Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта ў Мінску. Да 2006 года выпускалі альбомы на польскай мове. Пасля 2006 года сталі выдаваць альбомы з беларускімі, украінскімі і рускімі песнямі. Да многіх зрабілі прафесійныя відэакліпы. Асабліва кліп на песню «Мой родны горад» кранае за сэрца таму, што зняты ў Бельску-Падляшскім. Дарэчы, Януш Канопля мае ўласную студыю «Yoko Film», якая выпускае беларускія і польскія відэакліпы для гуртоў з усяе Польшчы.

**SERVER**

Група «Server» была заснавана ў 2007 годзе ў Гайнаўцы. Гэта яны стварылі беларускамоўную версію вядомага польскага хіта «Jesteś szalona», беларускі загаловак якога «Ты мне сказала».

**ВЯСНА**

У складзе гурта «Вясна» выступаюць сужонства Тамаш і Барбара Трахімчукі. Заснаваны ў 2008 годзе ў Беластоку. Здарылася мне напісаць ім чатыры песні да альбома «Раз, два, тры».

**DOBRYJE GRAJKI**

Заснаваны ў 2011 годзе ў Бельску-Падляшскім. Як самая назва паказвае, што заснавана яна не беларусамі, а менавіта палякамі, таму што ў беларускай мове няма ні слова «добрые», ні «грайкі». Нягледзячы на гэта, гурт «Dobryje Grajki» ў сваім рэпертуары мае многа аўтарскіх беларускіх песень. Група зрабіла стаўку на поўны прафесіяналізм — музыку піша лідар групы Кшыштаф Татарчук, словы — «белавежац» Віктар Швед, а модныя аранжыроўкі рыхтуюць самыя вядомыя польскія аранжыроўшчыкі: Роберт Бальцэжак, Davis, Sequence і Slayback. Таксама відэакліпы «Добрых грайкаў» поўнасцю прафесіянальныя.

**TIME**

Хаця гурт «Time» паўстаў у 1998 годзе, дык чатыры свае першыя альбомы выпусцілі на польскай мове. Толькі ў 2011 годзе выдалі альбом «Wschodnie Przeboje Vol. 1», а ў 2013 годзе — «Wschodnie Przeboje Vol. 2». Абодва альбомы з моцным беларускім акцэнтам. Таксама прафесійныя відэакліпы, якія прамуюць гэтыя альбомы — выключна да беларускіх песень. Поўны прафесіяналізм і любоў да беларускай песні б'е ад выкананняў Марка Шурпіка — вакаліста і лідара групы «Time» з Бельска-Падляшскага.

**SPEED**

Таксама ў 2013 годзе польская група «Speed» з Бельска-Падляшскага выпусціла свой першы альбом «Чорны вочы». На гэтай кружэлцы большасць песень на беларускай мове. Што цікавае, група мае двух вакалістаў — Славаміра Мазура і Рафала Асіпюка. Трэці чалец групы Каміль Квяткоўскі зрабіў аранжыроўкі да паловы гэтага альбома, а да астатніх песень — Роберт Бальцэжак.

* * *

Не трэба зважаць на гэта, што пералічаныя мною гурты іграюць папсу ці спяваюць з плэйбека. Самае важнае, што ім хочацца спяваць па-беларуску і зарабляюць на гэтым грошы. Найважнейшае, што большасці слухачам падабаецца іх музыка. А палітычны рок пакіньма для снобаў-пенсіянераў. Яны не маюць права мяняць густы ўсяго беларускага народа. Беларуская моладзь на Падляшшы слухае такую музыку, якую я прадставіў у гэтым дописе, чаго доказам могуць быць натоўпы моладзі на беларускіх дыскатэках і канцэртных відэакліпы гуртоў «Зорка» ці «Dobryje Grajki». Яны хочуць пры свяце з сямейнікамі або грылі слухаць такія гурты, якія я апісаў, паесці, выпіць і павесяліцца пры нашай роднай беларускай музыцы з Падляшша.

Юрка БУЙНЮК

ISSN 0546-1960 07